КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 19 (340) ◂ 17 мая ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**РАДЫЁ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**

Нарыс Ігара Мельнікава

▸ **З НАГОДЫ**

# ПА-ЗА ЯКОЙ ПАЛІТЫКАЙ СПОРТ?

Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандра Лукашэнку балюча шчоўкнулі па носе. Яму не далі згуляць у хакей. Каманда, якая ўдзельнічала ў другім Усерасійскім фестывалі па хакеі сярод аматараў у Сочы, фактычна была дыскваліфікаваная. Нягледзячы на тое, што запрасіў яе міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу.**




Як вядома, 7 мая каманда Лукашэнкі ў паўфінале турніру выйграла ў каманды «Неўскі легіён» з лікам 4:1, але беларускім хакеістам была залічана тэхнічная параза з лікам 0:5. Як высветлілася, за парушэнне рэгламенту спаборніцтваў.

Напярэдадні гульні ў Спартыўна-дысцыплінарную камісію фестывалю па хакеі звярнуліся іншыя каманды «з просьбай пераглядзець склад каманды «Беларусь» згодна з патрабаваннямі рэгламенту фестывалю». Высветлілася, што шэраг гульцоў проста не маюць права выступаць на гэтым свяце аматарскага хакею, бо з'яўляюцца прафесіяналамі.

Беларусы даўно ведалі, што менавіта прафесіянальныя гульцы забяспечваюць перамогу каманды кіраўніка Беларусі ва ўсіх аматарскіх шайбачных гульнях. Але рускія вырашылі, каб усё было сумленна.

Згодна з рэгламентам, да ўдзелу ў дадзеных спаборніцтвах «дапускаюцца мужчынскія аматарскія каманды, у складзе якіх могуць быць заяўлены хакеісты 1973 года нараджэння і старэй, якія не гулялі за прафесійны хакейны клуб (або каманду майстроў) пад эгідай IIHF або FIB, а таксама хакеісты 1973 нараджэння і старэй, якія гулялі за прафесійны клуб (каманду майстроў) другой лігі (клас А), але якія скончылі свае выступы не пазней сезона 1996–1997 гадоў». Пры гэтым у рэгламенце сказана, што «склад каманды «Беларусь», уключанай у дывізіён «WORLD CUP 40 +» па асабістым запрашэнні кіраўніцтва РФ, узгадняецца і зацвярджаецца праўленнем Начной лігі».

Праўленне Начной лігі, дарэчы, і так зрабіла выключэнне для беларусаў: за нашу каманду гулялі Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі, якія нарадзіліся ў 1975 і 1980 гадах адпаведна, і, відавочна, не падыходзілі пад вызначэнне «не маладзей за 1973 год нараджэння». Але на большыя саступкі праўленне не пайшло.

Пасля інцыдэнту КХЛ зрабіла афіцыйную заяву пад назвай «Беларускія прафесіяналы вырашылі выйграць чэмпіянат сярод аматараў». У ёй кажацца: «У парушэнне артыкула 5.2 Рэгламенту Усерасійскага фестывалю, у складзе каманд «Беларусь» у матчах супраць хакеістаў-аматараў на сочынскі лёд выходзілі гульцы, якія выступалі за прафесійныя хакейныя клубы». Таксама адзначаецца, што арганізатары турніру прасілі беларускі бок прывесці каманду ў адпаведнасць з азначэннем «аматарскі хакей», але кіраўнік беларускай дэлегацыі Павел Ягораў і трэнерскі штаб каманды катэгарычна адмовіліся гэта зрабіць.

Праграма «Панарама» абвінаваціла ў дыскваліфікацыі Газпрам і намесніка старшыні праўлення карпарацыі Аляксандра Мядзведзева, ніводнага разу не заікнуўшыся пра тое, што выпускаць на лёд аматараў супраць прафесіяналаў — гэта ўсё роўна, што хадзіць з шабляй на танкі. Але, хто б ні прымаў рашэнне пра дыскваліфікацыю беларускай каманды, вынік відавочны: Аляксандр Лукашэнка не паляцеў на верагодную сустрэчу ў Сочы з Пуціным. А гэта ўжо — чыстая палітыка з яе маршамі і дэмаршамі.

Поўха для Лукашэнкі тым больш балючая, што днямі Міжнародная федэрацыя па хакеі з шайбай (IIHF) будзе абмяркоўваць перанос альбо неперанос Чэмпіянату свету па хакеі–2014 з Беларусі ў іншую краіну. За такі перанос выступаюць шэраг праваабарончых арганізацый і еўрапейскіх палітыкаў. Прыкладам, па ініцыятыве дэпутата ад Польшчы Марэка Мігальскага ў Еўрапарламенце стартавала акцыя «Лукашэнка, Puck You!» (Puck — шайба), накіраваная на тое, каб пазбавіць Беларусь права правядзення ЧМ–2014.

Аднак IIHF чамусьці моцна чапляецца за Беларусь як за месца ЧМ–2014. Да той ступені, што на сёлетнім ЧМ–2013 былі забароненыя для выкарыстання заўзятарамі бел-чырвона-белыя сцягі. На ўсе пытанні адносна «апошняй дыктатуры» і сцягоў IIHF адказвае: спорт не трэба звязваць з палітыкай.

Але вялікі спорт — гэта заўсёды вялікая палітыка, і дыктатарскія рэжымы заўсёды выкарыстоўвалі спартыўныя мерапрыемствы ў якасці прапаганды. А больш цывілізаваныя краіны — у якасці ціску на дыктатуру. Прыклад першага — славутая Алімпіяда 1936 года ў гітлераўскай Германіі, напоўніцу выкарыстаная фашысцкай прапагандай. Прыклад адваротнага — байкот Алімпіяды 1980 года ў СССР як пратэст уводу савецкіх войскаў у Афганістан.

Тым не менш, IIHF, здаецца, не плануе пераносіць чэмпіянат куды-небудзь, і цвёрда трымаецца пазіцыі, што Беларусь яго сумленна заслужыла.

Атрымліваецца, што Аляксандр Лукашэнка катэгарычна памыліўся са сваёй спартова-геапалітычнай арыентацыяй. Высвятляецца, што ягоныя сябры па клюшцы знаходзяцца не на Усходзе, не даючы пагуляць у хакей, а на Захадзе, і ўпарта супрацьўляюцца ціску СМІ і грамадскасці з мэтай захаваць ЧМ–2014 у «сінявокай».

Лукашэнка ўжо не раз прызнаваў, што часцяком менавіта Захад «ўратоўваў Беларусь», ці тэрмінова даючы крэдыты, ці закупляючы кантрабандныя нафтапрадукты, ці нейкім іншым чынам. Расія ж, наадварот, неаднаразова спрабавала «нахіліць» Лукашэнку. Сітуацыя з камандай кіраўніка Беларусі яскрава паказвае: Масква патрабуе гуляць па правілах, а не выконваючы правілы — «нахіляць». І вялікіх выключэнняў ні для каго рабіцца не будзе, нават дзеля захавання «братэрскай любові».

Можа быць, калі IIHF не зменіць свае рашэнне аб правядзенні ЧМ–2014 у нашай краіне, кіраўнік дзяржавы зразумее, што і эканоміка-палітычныя інтарэсы Беларусі ляжаць у іншым баку? Што лепш сябраваць з тымі, хто не ўдарыць цябе клюшкай па руцэ ў самы напружаны момант?

А спадару Лукашэнку ўсё ж трэба зрабіць з гэтай сітуацыі свае высновы: з кім сябраваць, а з кім трымаць вушкі востра.

РЭФЕРЭНДУМ 1995

# НЕЗВАРОТНАСЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Які ўплыў аказаў рэферэндум 1995 году на грамадска-палітычнае жыццё краіны? Ці незваротная беларуская незалежнасць? На гэтыя пытанні адказваюць Алег Трусаў і Уладзімір Мацкевіч.**

## Уплыў на грамадска-палітычнае жыццё

**Алег Трусаў:**

— Рэферэндум быў мяжой. Скончыўся перыяд рэфармацыі і пачаўся перыяд контррэфармацыі. Пасля дэмакратычнага пад'ёму пачаўся заняпад.

Але ўплыў гэтага рэферэндуму дваісты. З аднаго боку, Беларусь атрымала падтрымку з Расіі, танныя энергарэсурсы. Хоць Лукашэнка шмат што абяцаў Расіі, але не выконваў. У выніку ўжо больш за 20 гадоў існуе незалежная Беларусь, у якой вырасла новае пакаленне беларусаў. З другога боку, адбыўся пераход да аўтарытарызму, разбураныя грамадскія структуры.

Рэферэндум абвясціў роўнасць дзвюх моваў. А дзе тая роўнасць?

Перамагчы на тым рэферэндуме 1995 года, нават калі б ён прайшоў у дэмакратычных умовах, было вельмі не проста, бо шмат людзей плакалі па СССР.

**Уладзімір Мацкевіч:**

— Рэферэндум меў лёсавызначальныя наступствы. Але гэта была сярэдзіна працэсу. Пачаўся ён прэзідэнцкімі выбарамі 1994 года. А скончыўся дзяржаўным пераваротам 1996-га.

На рэферэндуме 1995 года Лукашэнка пацвердзіў, што ён цалкам кіруе масавай свядомасцю грамадства. Быў узяты савецкі рэванш за першыя гады незалежнасці.

Напэўна, у абсалютных лічбах колькасць прыхільнікаў бел-чырвона-белага і чырвона-зялёнага сцягоў у 1994 годзе была большая. Наогул, свядомых прыхільнікаў абодвух сцягоў і адпаведных каштоўнасцяў — меншасць. Большасць — гэта «балота», якое выцясняе свядомых прыхільнікаў у маргінальны стан.

## Ці незваротная беларуская незалежнасць?

**Уладзіміp Мацкевіч:**

— Незалежнасць — безумоўная каштоўнасць нават для сённяшніх уладаў. Не думаю, што ў 1995 годзе Лукашэнка мяняў сімвалы з-за вялізарнай прыхільнасці да іх. Проста яму трэба было знайсці апірышча ў насельніцтва. І ён знайшоў пытанні, па якіх змог яго атрымаць. Цяперашняя эліта не атрымае тых магчымасцяў, улады, маёмасці, калі апынецца ў складзе Расіі. Але гарантыяў незваротнасці незалежнасці няма. Таму мы не павінны губляць пільнасць.

**Алег Трусаў:**

— У гэтым шматкроп'і на адну кропку стала меней. Але гэта не значыць, што з'явіліся жалезныя гарантыі. Лічу, што гарантыяй незалежнасці будзе далучэнне да ЕС. А датуль Расія будзе марыць забраць нас альбо губернямі, альбо цалкам. Зразумела, нашы эліты адчулі за больш чым 20 гадоў смак незалежнасці. Але ці здольныя яны будуць яе бараніць, калі ўзнікне рэальная небяспека? Я ў гэтым сумняваюся.

**Паводле Радыё «Свабода»**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# БРЭСТ: «ГАВАРЫ ПРАЎДУ» СКАРДЗІЦЦА НА ЎЛАДЫ

Аксана КОЛБ

**У Брэсцкі аблвыканкам адпраўлена скарга на дзеянні гарадскіх улад, якія часткова праігнаравалі калектыўны зварот жыхароў абласнога цэнтра. Ініцыятарамі выступілі актывісты кампаніі «Гавары праўду».**

У сакавіку жыхары брэсцкага мікраёна Паўднёвы, абураныя станам дарог, пры падтрымцы кампаніі «Гавары праўду» пачалі збор подпісаў, каб дамагчыся рамонту паўкіламетровага ўчастку вуліцы Ракасоўскага і трасы, якая злучае яе з вуліцай Жукава. На гэтым участку група энтузіястаў налічыла тысячу ям, выбоін і іншых пашкоджанняў дарожнага палатна. Адначасова ў калектыўным звароце, пад якім паставілі свае подпісы 1100 чалавек, паказвалася, што на згаданым участку адсутнічае абсталяванае ходнікавае пакрыццё, хоць па суседстве размешчана гімназія №6. У выніку змешчаная ў аварыйным стане дарога з ажыўленым рухам аўтамабіляў, з'яўляецца фактарам падвышанай рызыкі для жыцця і здароўя навучэнцаў.

Зварот з патрабаваннем прыняць меры быў накіраваны гарадскім уладам і кіраўніцтву ДАІ Брэсцкай вобласці. Па інфармацыі ініцыятара кампаніі "Тысяча і адна ямка" Ігара Маслоўскага, у адказе Брэсцкага гарвыканкама сцвярджалася, што з надыходам спрыяльных пагодных умоў, камунальнымі службамі будуць выкананы працы па бягучым рамонце дарожнага пакрыцця на паказанай тэрыторыі.

«Сапраўды, у канцы красавіка такія рамонты пачаліся, — паведаміў Маслоўскі. — Аднак цяпер ніякіх работ не праводзіцца, а бягучы рамонт дарожнага палатна (якое практычна адсутнічае) так і не зроблены: заменены толькі бардзюры на ўчастку дарогі паміж вуліцамі Ракасоўскага і Жукава. На самой жа вуліцы Ракасоўскага праца нават не пачыналася».




Што ж датычыцца ходнікавага пакрыцця зблізку гімназіі №6, то з адказу гарадскіх службоўцаў вынікае, што ўладкоўваць яго не будуць. І гэта нягледзячы на тое, што зараз жыхарам мікраёна даводзіцца выходзіць на праезную частку, паколькі суседняя тэрыторыя агароджана плотам, дзе пачата будаўніцтва праваслаўнага храма, а ўздоўж дарогі практычна ў любую пару года не прайсці з-за адсутнасці ходніка.

Па словах Ігара Маслоўскага, зараз накіравана скарга абласным уладам, паколькі ў парушэнні артыкула 9 Закона РБ «Пра звароты грамадзян і юрыдычных асоб» Брэсцкім гарвыканкамам не прыняты меры для поўнага, аб'ектыўнага, усебаковага разгляду звароту.

Варта адзначыць, што па выніках калектыўнага звароту ў ДАІ вобласці, у стаўленні службовай асобы КУП «Брэсцкае ДЭП» пачаты адміністрацыйны працэс. Так сцвярджаецца ў адказе УУС Брэсцкага аблвыканкама.

Зараз жыхары Брэста ў сваёй скарзе патрабуюць ад аблвыканкама не толькі прывесці дарожнае пакрыццё на вуліцы Ракасоўскага ў адпаведнасць з нормамі і абсталяваць скрыжаванне з вуліцай Жукава ходнікам для бяспечнага руху пешаходаў, але і прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці асобаў, якія дапусцілі парушэнне заканадаўства пра зварот грамадзян.

СПРАВА

# БХД АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ СЯМ'І

**15 мая, у Міжнародны дзень сям'і, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» супольна з шэрагам грамадскіх арганізацый правёў па ўсёй краіне акцыі ў абарону сямейных каштоўнасцяў.**

Актывісты БХД распаўсюджвалі адпаведныя буклеты і плакаты, ладзілі тэматычныя сустрэчы і вечарыны.

Цэнтральнай падзеяй адзначэння Міжнароднага дня сям'і стала сямейная вечарына, якая прайшла ўвечары 15 мая ў Мінску ў галерэі «Ў». На вечарыне адбылася прэзентацыя кампаніі «За сямейныя каштоўнасці», у тым ліку яе пэўныя вынікі — адмена бальшасці сацыяльных паказанняў для правядзення абортаў.

Пасля прэзентацыі распачалася творчая праграма вечарыны, падчас якой адбыліся выступы дзетак, узнагароды пераможцаў, прайшоў майстар-клас па скручванні паветраных шарыкаў. Таксама былі падведзеныя вынікі конкурсу малюнкаў, абвешчанага БХД. Усе ўдзельнікі конкурсы атрымалі падарункі. Да таго ж кожная сям'я атрымала «дыплом сям'і, якая захоўвае сямейныя традыцыі і з'яўляецца ўзорам шчаслівай дружнай сям'і».

Па заканчэнні творчай праграмы ўдзельнікі вечарыны скіраваліся ў парк Горкага, дзе запусцілі паветраныя ліхтарыкі. Затым некалькі сем'яў працягнулі святкаванне ў кавярні за кубкам гарбаты з салодкім.

«Вельмі спадабалася і нам, і дзецям. Больш бы такіх мерапрыемстваў і інфармацыі пра тое, што існуе такое добрае свята — Дзень сям'і, пра якое мы даведаліся дзякуючы кампаніі «За сямейныя каштоўнасці». Дзякуй арганізатарам за пазітыўны настрой і запрашэнне. Будзем удзельнічаць у кампаніі і далей!» — адзначылі ўдзельнікі вечарыны.

**Прэсавая служба БХД**

ФЭСТ

# ГАЗПРАМУ ПАДАРАВАЛІ ЯШЧЭ І ВІЦЕБСК

Аксана КОЛБ

**Падобна на тое, што перад тым, як выкупіць кавалак Мінска, Газпрам вырашыў набыць Віцебск, прынамсі на тыдзень. Да 20 мая горад пертварыўся ў філіял расійскай кампаніі — тут праходзіць карпаратыўны фэст «Паходня».**

У Віцебску 14 мая адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця заключнага тура V карпаратыўнага фэсту «Паходня» самадзейных творчых калектываў і выканаўцаў даччыных таварыстваў і арганізацый ААТ «Газпрам», паведамляе сайт "Народныя навіны Віцебска".

Свята пачалося з афіцыйнай часткі. Дэлегацыі 36 прадпрыемстваў Газпрама на чале са старшынёй праўлення кампаніі Аляксеем Мілерам і першым намеснікам прэм'ер-міністра Беларусі Уладзімірам Сямашкам усклалі кветкі да Вечнага агню. Затым газпрамаўцы ганарліва прайшлі праз цэнтр Віцебску з транспарантамі, белымі і блакітнымі паветранымі шарыкамі, скандаваннем назваў сваіх гарадоў. З калоны раз-пораз выярываліся крыкі: «Томск», «Надым», «Самара» і г.д.

Затым удзельнікі прыпыніліся каля амфітэатра і паспрабавалі запусціць у неба шарыкі. Але яны чамусьці ўзлятаць не жадалі. Тады знаходлівыя расійцы знайшлі выйсце: сталі лопаць іх нагамі.

Усяго ў гэтыя дні ў Віцебску знаходзіцца 2,7 тысячы госцяў. Горад так уразіў Аляксея Мілера, што ён прызнаўся журналістам на прэс-канферэнцыі: цалкам магчыма, што карпаратыўны фэст Газпрама з гэтага часу прапішацца тут.

Вітальную тэлеграму ўдзельнікам фэсту, зразумела, накіраваў і Лукашэнка. Па яго словах, той факт, што ў гэтым годзе сталіцай гэтага свята стаў Віцебск — адзін з прызнаных цэнтраў славянскай культуры, з'яўляецца яшчэ адным сведчаннем духоўнага адзінства і непарушнасці саюза народаў Беларусі і Расіі. «Хай гэты фэст падорыць усім нам мноства творчых адкрыццяў, паслужыць далейшаму ўмацаванню сяброўства і супрацоўніцтва братэрскіх краін», — пажадаў кіраўнік Беларусі, перадае БЕЛТА.

Але гэткі аптымізм не падтрымліваюць жыхары Віцебска, якія ўжо адчулі перабоі з грамадскім транспартам, не могуць спакойна наведваць музеі і выставы, бо ў гэтыя дні туды водзяць толькі расійскіх гасцей. Не пускаюць віцяблян і на мерапрыемствы фэсту (амаль усе яны зачыненыя). Шмат каму вельмі не спадабалася, што іх горад, хаця і толькі на тыдзень, але стаў фактычна ўласнасцю Газпрама. Вось толькі некаторыя каментары ў інтэрнэце:

«Хай дзеткі з Газпрама праводзяць свае карпаратыўныя (вечарынкі) фэсты на тэрыторыі сваёй дзяржавы».

«Узялі так мальцы і па прыколе горад знялі на тыдзень! Хутка купяць назусім! Вось тады зажывём!»

«А як нашы лягавыя іх быкоў слухаюцца: налыса паголены газпрамавец камандаваў нашымі мянтамі як сваёй асабістай аховай: «ты туды, ты туды, ты чё не зразумеў? (гэта ён лейтэнанту) вядзі сваіх прэч туды і расстаў вунь там».

«Цікава, 16 мая будзе рок-канцэрт. На сайце «Zdob si Zdub» і ў твітэры «БІ–2» напісана, што ён прымеркаваны да Дня горада. Дзень горада афіцыйна заўсёды быў 13 ліпеня. Ці ў гонар Газпрама Дзень горада таксама перанеслі?»

«Гандляваць "адным месцам" гэтыя "ўлады" даўно ўжо навучыліся… Вусаты ТНП толькі гэткіх гандляроў да ўлады і дапускае… Дабівае тое, што з гэтага вузкакарпаратыўнага дзейства віцебскія ўлады робяць нешта падобнае на «Славянскі Базар». Не варта так ужо прагінацца пад гэтых "тлустых катоў"…

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# СУЦЭЛЬНЫЯ НЕПРЫЕМНАСЦІ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нягледзячы на тое, што мінулы працоўны тыдзень быў надзвычай кароткі, нявырашаныя старыя праблемы ўсё ж застаюцца. А калі іх не вырашаць, то яны з цягам часу абцяжарваюць усё болей. Таму доўгія выходныя былі нам больш на шкоду, чым на карысць.**


Photo.ByMedia.Net

Напрыклад, перавод шэрагу буйных прамысловых прадпрыемстваў краіны на 4-дзённы працоўны тыдзень або, як сцвярджаюць улады, перанос вясновых рабочых пятніц на восеньскія суботы замарудзіў, але не спыніў рост складскіх запасаў. Верагодна, для поўнага спынення гэтай негатыўнай тэндэнцыі шэрагу прадпрыемстваў краіны неабходна ўвесці 3-дзённы працоўны тыдзень, а асобным папросту згарнуць масавую вытворчасць да пачатку выпуску цалкам абноўленай і, галоўнае, запатрабаванай на традыцыйных рынках збыту прадукцыі.

Нягледзячы на відавочнае запаволенне прамысловай вытворчасці, запасы гатовай прадукцыі на прамысловых прадпрыемствах на 1 мая 2013 года дасягнулі 33,359 трыльёна рублёў (3,848 мільярда долараў па курсе Нацбанка), павялічыўшыся на 50,3%, або 11,166 трыльёна рублёў з пачатку года, паведамляе Белстат.

Па стане на 1 мая 2013 года суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці дасягнулі 82,4%.

То бок, беларуская прамысловасць у асноўным працуе на склад. А тут яшчэ і Расія не дапамагае. Як стала вядома, адзін з «чатырохздзённых» заводаў (а менавіта МАЗ) паад прыватызацыі на суму не менш за 2,5 мільярда долараў не будзе ўлічвацца пры прыняцці рашэння аб выдзяленні Беларусі 6-га, апошняга, траншу стабілізацыйнага крэдыту. Як паведаміў намеснік старшыні Еўразійскага банку развіцця, які кіруе сродкамі АКФ, Сяргей Шаталаў, галоўны паказчык, які будзе прымацца пад увагу, — абмежаванне росту крэдытавання эканомікі 19% па выніках 2013 года.

«Кантроль над крэдытаваннем — вельмі важны фактар тармажэння інфляцыі і ўмацавання плацежнага балансу. У 2011 годзе прырост крэдытавання эканомікі Беларусі склаў 40%, у 2012 годзе — звыш 30%. Зараз урад Беларусі плануе абмежаваць рост крэдытавання эканомікі 1,5% у месяц, што дасць прыкладна 19,6% у год. Мы лічым, што гэта забяспечыць істотнае тармажэнне інфляцыі і паменшыць ціск на знешнегандлёвы баланс», — заявіў Шаталаў.

Ён паведаміў, што ў цяперашні час АКФ і ўлады РБ узгадняюць новы «Ліст аб намерах», якім зацвярджаюцца неабходныя для выканання паказчыкі.

> Адзінае, што нас можа радаваць: непрыемнасці зваліліся не толькі на нас. Як кажуць, у суседа карова здохла, а нам радасць. Урад Кыргызстана заявіў, што працягне рабіць намаганні па экстрадыцыі былога прэзідэнта Бакіева

чаў губляць расійскі рынак. Доля беларускага ААТ «МАЗ» па выніках I квартала 2013 на расійскім рынку грузавых аўтамабіляў поўнай масай 14–40 тон знізілася да 7,4% з 15,0% у I квартале 2012 года, паведамляецца ў справаздачы ААТ «КамАЗ». Можа, гэта і хлусня канкурэнтаў, але ж заваленыя склады МАЗа сведчаць, што гэта, хутчэй, праўда.

А за кошт чаго мы будзем выцягваць з балота «беларускі эканамічны цуд»? Здаецца, за кошт траплення ў іншае балота — крэдытнае. Два мільярды долараў на мадэрнізацыю Расія нам пакуль не дае, але мы і ранейшыя крэдыты не выбралі. А зараз нам яшчэ большы фарт падваліў.

Невыкананне Беларуссю сваіх абавязацельстваў перад Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС у частцы забеспячэнне штогадовых паступленняў

Але ж планы і намеры ўрада — гэта адно, а вось тое, што адбудзецца на самай справе, — зусім іншае. Не для таго Нацбанк зніжае стаўку рэфінансавання, каб адразу ж «зацiснуць» крэдытаванне прадпрыемстваў. Інакш і зніжэння стаўкі крэдытаў было б бессэнсоўным. Так што АКФ трэба моцна падумаць над гэтым «лістом».

Тым больш, што АКФ, як высветлілася, думае і над працягам праграмы крэдытавання Беларусі! Абавязкі Беларусі па продажы «фамільнага срэбра» прадстаўнікі ЕАБР маюць намер уключыць у новую праграму крэдытавання. «Калі новая праграма адбудзецца, яе прыярытэтам павінны стаць структурныя рэформы, прычым прыватызацыя — гэта адзін з першых крокаў на шляху ажыццяўлення такіх рэформаў. Прыватызацыя — важны фактар павышэння канкурэнтаздольнасці эканомікі», — заявіў Шаталаў.

Адзінае, што нас можа радаваць: непрыемнасці зваліліся не толькі на нас. Як кажуць, у суседа карова здохла, а нам радасць. Так, урад Кыргызстана заявіў, што працягне рабіць намаганні па экстрадыцыі былога прэзідэнта Курманбека Бакіева і яго брата Жаныша Бакіева з Беларусі.

«Мы гэтую працу будзем абавязкова працягваць. Забойства і масавае забойства — гэта сур'ёзныя абвінавачанні, дзяржава не мае права кінуць гэтае пытанне і пакласці яго пад сукно. Мы па пытанні экстрадыцыі арганізоўваем сур'ёзную працу», — сказаў віцэ-прэм'ер Кыргызстана Шаміль Атаханаў.

Атаханаў адзначыў, што працоўная група, якая пабывала ў Беларусі, правяла перамовы, вызначала першыя этапы развіцця адносін. «Бо раней не было наогул магчымасці весці перамовы. Гэтая праца будзе прадоўжана», — сказаў ён.

Цікава, ці выдасць Мінск Бакіевых пры якіх-небудзь умовах? А калі не, дык ці «падыграе» ён Кіргізіі, скажам, інфармацыяй пра перамяшчэнне Бакіевых? Бо, як распавёў Ахатанаў, Жаныш Бакіеў мае некалькі дакументаў, па якіх ён перамяшчаецца па Расіі і краінах Прыбалтыкі. І ў кожнай з гэтых краін ён можа быць затрыманы.

«Я ўпэўнены, што справядлівасць павінна перамагчы. У нас ёсць прысуд суда, міжнародныя акты па экстрадыцыі. Мы будзем дамагацца іх экстрадыцыі. У гэтым пытанні ў кыргызскага боку ёсць поўная прававая абгрунтаванасць», — лічыць Атаханаў.

Але больш крута патрапіў братэла Махмуд. Таварышу Ахмадзінежаду пагражаюць 74 удары бізуном ці шэсць месяцаў турэмнага зняволення. Ён неасцярожна суправаджаў свайго магчымага пераемніка Эсфандзіяра Рахіма Машаі, калі той рэгістраваўся кандыдатам у прэзідэнты. 11 мая дзяржаўнае тэлебачанне паказала кадры з прэзідэнтам і яго ным саюзнікам. А падтрымка кіраўніком Ірану каго-небудзь з кандыдатаў — гэта парушэнне заканадаўства краіны. Пакаранне ж за такія дзеянні — бізун.

Можа, і ў нас увесці падобныя правілы?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ ДАРЭНКА



Вядомы «тэлекілер» Сяргей Дарэнка лічыць, што рускае насельніцтва Расіі, незадаволенае засіллем выхадцаў з Азіі і Каўказу, можа пераехаць жыць у Мінск ці Кіеў. Гэтую параду ён агучыў у чарговым выпуску сваёй аўтарскай праграмы, якую выкладвае на відэахостынгу YouTube.

Выпуск Дарэнка прысвяціў інцыдэнту, які 12 мая адбыўся ў падмаскоўным Чэхаве, дзе мясцовая моладзь збіла таджыкскіх рабочых, якія гулялі ў футбол за будаўнічай пляцоўкай. «Гэта ад прыкрасці. Мясцовыя рускія разумеюць, што азіяты выцясняюць іх. І выціснулі ўжо», — сказаў вядучы.

«Не падабаюцца вам іншакультурныя дзіўныя прыезджыя вакол вас — ну, едзьце ў гарады, дзе іх няма. У Мінск едзьце, у Кіеў едзьце. Беларусь і Украіна ўсё яшчэ стаяць. Беларусы і украінцы ўсё яшчэ працуюць рукамі. У адрозненне ад вас», — звярнуўся да рускіх Сяргей Дарэнка.

Аптымізму з нагоды будучыні рускіх Сяргей Дарэнка не выказвае: у заключэнне ён заявіў: «Вы [жыхары Расіі] хутка станеце ўспамінам пра насельніцтва», якое саступіць сваё месца азіятам.

Сам Дарэнка ўжо даўно купіў кватэру ў Траецкім прадмесці Мінска. Але навошта ён заклікае прыязджаць сюды тых, хто, па яго ных словах, не імкнецца працаваць, а толькі піць, — не вядома.

### АЛЕНА ЛАНСКАЯ



Спявачка на прэс-канферэнцыі пасля паўфінала заявіла, што паўфінал — гэта «проста не перадаць словамі!» «Я да гэтага імкнулася на працягу 10 гадоў! Для мяне гэта велізарная падзея, якую я да гэтага часу яшчэ не магу ўсвядоміць», — заявіла Ланская.

Больш за тое, яна адзначыла, што «ў маёй краіне ёсць усе ўмовы, каб правесці «Еўрабачанне–2014».

Уяўляю, як пры гэтых словах пералякнуліся спонсары Ланской і кіраўніцтва краіны. Бо «Мінск-Арэна» і іншыя пляцоўкі будуць занятыя Чэмпіянатам свету па хакеі, а будаваць новыя сцэны ды гатэлі для прыёму турыстаў няма ані грошай, ані працоўных.

### УЛАДЗІМІР МАКЕЙ



Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей — самы нешчаслівы чалавек на тыдні. Спачатку з'явілася паведамленне пра тое, што ён не паехаў, як планавалася, у Нью-Ёрк. Замест яго на пасяджэнне высокага ўзроўню Генасамблеі ААН па агляду выканання Глабальнага плана дзеянняў па барацьбе з гандлем людзьмі адправіўся яго намеснік Валянцін Рыбакоў.

Адпаведна, не адбылася анансаваная ў рамках гэтага мерапрыемства сустрэча Макея з генеральным сакратаром ААН, у той час як Рыбакоў здаволіўся толькі ўзроўнем намесніка генсакратара ААН па палітычных пытаннях.

Потым МЗС РБ заявіла, што Макей не паедзе ў Кракаў для ўдзелу ў сустрэчы кіраўнікоў МЗС краін «Усходняга партнёрства», якая пройдзе 17–18 мая. Беларусь на гэтым мерапрыемстве будзе прадстаўляць намеснік кіраўніка МЗС РБ Алена Купчына.

Між тым, прадстаўнік Пасольства Польшчы ў РБ сцвярджае, што ў Кракаве чакалі менавіта Макея. «Пасля кансультацый з нашымі партнёрамі было прынята рашэнне аб запрашэнні беларускага боку. Запрашэнне перададзена на рукі спадару Макею, што прадугледжвае яго асабісты ўдзел у сустрэчы», — адзначыла крыніца «Інтэрфакса» ў пасольстве Польшчы.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПЛЮСЫ І МІНУСЫ ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ

Сяргей НІКАЛЮК

**Культура, якая развіваецца, павялічвае колькасць сваіх адэптаў, а з культуры, што дэградуе, эмігруюць самыя актыўныя яе носьбіты.**




Маё апошняе месца працы — вартаўнік на будоўлі. Графік працы — суткі праз трое. Любата! Але ўсё ў гэтым жыцці калі-небудзь заканчваецца. Ад чэрвеня мінулага года я — пенсіянер, і ў вольны ад атрымання працоўнай пенсіі час пішу «Азбукі паліталогіі», часам разнастаю гэты руцінны занятак удзелам у розных праектах.

Сваімі ўражаннямі ад працы над кнігай «Праблемы гуманітарнай бяспекі Беларусі» я і вырашыў падзяліцца з чытачамі НЧ. У красавіку адбылося яе выніковае абмеркаванне. Сярод аўтараў з навуковымі ступенямі я быў адзіным прадстаўніком працоўнага класа, і таму многае з таго, што прагучала на «круглым стале», успрымаў як адкрыццё.

## «Блакітнасць» як пагроза беларускай самабытнасці

Першае адкрыццё звязана з існаваннем беларускай цывілізацыі. Пра Расію як асобную цывілізацыю ў навуковым свеце ідуць спрэчкі. Факт існавання заходнехрысціянскай цывілізацыі ніхто не аспрэчвае з часоў заснавальніка цывілізацыйнай тэорыі Арнольда Тойнбі. Але пра беларускую, зрэшты, як і пра польскую, нямецкую цывілізацыі, я раней нічога не чуў.

Але якая, у прынцыпе, розніца, з'яўляецца Беларусь асобнай цывілізацыяй ці не. Хоць гаршчком назаві, абы ў печ не ставілі. Мае бліжэйшыя калегі (пенсіянеркі), якія сядзяць у добрае надвор'е на лавачцы, пра існаванне падобных светапоглядных нюансаў і не здагадваюцца, што не перашкаджае ім атрымліваць прыстойныя па беларускіх мерках пенсіі.

Але пенсіянеркі на лавачках і НЧ не чытаюць. Гэта іх праблемы. Для астатніх жа патлумачу, што, згодна з Тойнбі, «дзеючыя сілы гісторыі не з'яўляюцца нацыянальнымі, але вынікаюць з больш агульных прычын. Узятыя ў сваёй прыватнай, нацыянальнай праяве, яны не могуць быць правільна зразуметыя». Гэта значыць, любая спроба асэнсавання праблемы гуманітарнай бяспекі Беларусі апынецца бясплоднай, калі мы беларускую культурную прастору будзем разглядаць як самадастатковую.

Тойнбі пералічвае асноўныя вехі ў гістарычным развіцці Англіі: прынццё хрысціянства — VI ст.; усталяванне феадальнай сістэмы — XI ст.; Рэнесанс — XV ст.; рэфармацыя — XVI ст.; марская экспансія — XVI ст.; усталяванне адказнага парламентарнага ўрада — XVII ст.; усталяванне індустрыяльнай эканамічнай сістэмы — XVIII ст. І што тут выключна англійскага? Нават астраўное становішча не змагло ізаляваць туманны Альбіён ад магістральных гістарычных працэсаў, што разыграліся на агульнаеўрапейскай сцэне.

Другое адкрыццё — беларуская цывілізацыя з усіх бакоў акружаная ворагамі. Яе самабытнай культуры, аказваецца, пагражаюць не толькі з Усходу (без каментараў), але і з Захаду. Для многіх удзельнікаў «круглага стала» Захад асацыяваўся выключна з аднаполымі шлюбамі. Як тут ні прыгадаць Пасланне–2013: *«Не заставляйте, дорогие, нас вводить однополые браки. Не будет этого в Беларуси, по крайней мере в ближайшее время, ну пока я президент, точно! Не будет здесь «голубизны» и «розовых» и прочих».*

Мне зразумела, чаму адзіны палітык (АП), калі параўноўвае заходнюю дэмакратыю з беларускай, абмяжоўваецца развагамі пра аднаполыя шлюбы. Але чаму дактары і кандыдаты гуманітарных навук ідуць яго шляхам — для мяне засталося загадкай.

Між тым, звяртаючыся да слаўнага мінулага (у тым, што яно было слаўным, ніхто не сумняваўся), удзельнікі «круглага стала», быццам змовіўшыся, прыгадвалі Магдэбургскае права, Статуты, універсітэт у Вільні, першадрукара Францыска Скарыну.

Аднак што з прапанаванага пераліку з'яўляецца запазычаным, а што «тутэйшым»? ВКЛ у сярэднявеччы, як я разумею, было часткай заходнехрысціянскай цывілізацыі, як і Англія, актыўна асвойвала яе дасягненні. Але сёння ці то мы развучыліся асвойваць дасягненні Захаду, ці то Захад іх ужо не генеруе.

У няздольнасці беларускага грамадства і яго інтэлігенцыі адназначна вызначыцца са сваім месцам на цывілізацыйнай карце, і хаваецца адна з галоўных пагроз гуманітарнай бяспекі Беларусі.

## Для дыктатуры патрэбныя рэсурсы

Трэцяе адкрыццё — заклік да абароны «традыцыйных каштоўнасцяў». Адзначу, што ніхто з тых, хто заклікаў, не прапанаваў нават кароткага іх пераліку. Але тое, што ўсе «традыцыйныя каштоўнасці» ўваходзяць у катэгорыю «белыя і пухнатыя», ніхто не аспрэчваў. А дарэмна.

Тут патрэбны каментар. З сотняў вызначэнняў культуры абмяжуюся адным, але максімальна прыдатным для нашага выпадку: культура — пазабіялагічны спосаб для вырашэння агульнабіялагічных праблем. Галоўная агульнабіялагічная праблема — гэта праблема выжывання. Адсюль імкненне кожнага біялагічнага віду да павелічэння колькасці і пашырэння арэалу свайго пражывання. Зразумела, што рэалізоўваць свае памкненні даводзіцца ва ўмовах канкурэнцыі.

І культуры ў гэтым сэнсе не з'яўляюцца выключэннем. З дагістарычных часоў яны змагаюцца за павелічэнне колькасці сваіх адэптаў, у тым ліку і за кошт насельніцтва, што пражывае на суседніх тэрыторыях. Так, руская стагоддзямі прасоўвалася на Усход і асімілявалі абарыгенаў. Працэс гэты працягваўся да тых часоў, пакуль яны не дайшлі да межаў дзяржаў, чые культуры ў сваім стадыяльным развіцці не саступалі рускай культуры, а то і апярэджвалі яе (Карэя, Кітай).

Культура мадэрну ў Еўропе ўзнікла не на пустым месцы. Яна — прадукт натуральнага самаразвіцця (мадэрнізацыі) лакальных традыцыйных культур заходнехрысціянскай цывілізацыі. Асвоіўшы каштоўнасці мадэрну, Захад рэзка павысіў сваю канкурэнтаздольнасць на рынку культур. Тым жа, хто не паспеў і спазніўся, давялося даганяць.

Натуральна, неканкурэнтаздольнасць традыцыйных культур да пачатку Новага часу ўсвядомілі не сяляне, а ўладныя эліты, і ўсведамленне гэта прыйшло праз ваенныя паразы. Адказам на натуральную мадэрнізацыю Захаду стала мадэрнізацыя Усходу (Расійская і Асманская імперыі), якая праводзілася наўздагон і зверху (як правіла, сілавымі метадамі).

Мадэрнізацыя ад АП — класічны прыклад такога тыпу мадэрнізацыі. Чакаць вяртання да часоў сталінскіх рэпрэсій, зразумела, не варта. Для ўсталявання поўнамаштабнай дыктатуры, як неаднаразова тлумачыў сам АП, *«надо иметь ресурсы»*. А вось якраз рэсурсаў, дзякуй Богу, у дастатковай колькасці Беларусь не мае. Таму і давялося ў мінулым годзе абмежавацца дэкрэтам №9. Працытую Пасланне–2013: *«Вы все знаете о моих решениях, порой непопулярных, принятых по результатам посещения основных деревообрабатывающих предприятий. Это вызвано необходимостью успешно завершить начатую там модернизацию».*

Новы час, згодна з АП, высоўвае тры галоўныя патрабаванні: хуткасць, гнуткасць і творчасць. Дэкрэт №9 і падобныя рашэнні — гэта беларускі адказ на галоўныя выклікі, якія мусяць павысіць канкурэнтаздольнасць нашай самабытнай мадэлі развіцця.

## Рыс у Беларусі, на жаль, не расце

Для традыцыйных грамадстваў, дзе кожны ведае кожнага, гатоўнасць да супрацоўніцтва з'яўляецца правілам, а не выключэннем (прыгадаем талаку). Заходні чалавек, які развітаўся з традыцыйным мінулым па ўласнай ініцыятыве, перанёс здольнасць да супрацоўніцтва ў вялікае грамадства. Для гэтага яму давялося навучыцца ўзаемадзейнічаць з незнаёмымі яму людзьмі з дапамогай універсальных нормаў (законаў).

У гады сталінскай індустрыялізацыі наш традыцыяналіст быў вырваны са звыклага сельскага свету і ў масавым парадку накіраваны на будаўніцтва Магнітак і Днепрагэсаў. Так нарадзіўся «чалавек атамізаваны», якога не варта блытаць з «чалавекам аўтаномным». Першы, у адрозненне ад другога, няздольны аб'ядноўвацца з незнаёмымі яму людзьмі для ўзаемадзеяння з дзяржавай. Калі ж неабходнасць у такім узаемадзеянні ўзнікае, то «чалавек атамізаваны» вырашае свае праблемы за кошт асабістых сувязяў (блату).

«Сялянская ментальнасць, — на думку гісторыка Уладзіміра Булдакова, — якую вытраслі са свайго натуральнага цела, стала беспераашкодна паўзці ўверх па ўсіх паверхах уладнай піраміды». Зірніце на нашу «вертыкаль» і «вертыкальшчыкаў». Гэта ж архаіка ў чыстым выглядзе! Таму прынцып асабістых дамоўленасцяў пануе ў нас не толькі на нізавым узроўні, але і на ўзроўні міждзяржаўным (гл. «Дзяржава прыватных дамоўленасцяў», НЧ, №10, 2012).

Базавыя характарыстыкі традыцыйнай беларускай культуры фармаваліся ў зусім іншых умовах і для адказаў на іншыя выклікі. Сёння большасць з іх не падыходзіць, а зніжае канкурэнтаздольнасць беларускага грамадства.

Абмяжуюся адным прыкладам. Толькі 5 краін за апошнія 50 гадоў здолелі перайсці з трэцяга свету ў першы: Ганконг, Сінгапур, Тайвань, Паўднёвая Карэя і Японія. Нескладана заўважыць, што ўсе гэтыя краіны гістарычна звязаныя з вырошчваннем рысу.

У чым тут сакрэт? Традыцыйныя культуры ў большасці сваёй з'яўляюцца культурамі экстэнсіўнымі. Нездарма ўстойлівы рост ВУП на душу насельніцтва ў Еўропе стаў магчымы толькі пасля пераходу да культуры мадэрну (да 1800 года ВУП на сярэднестатыстычную душу ў Еўропе быў такім жа, як і ў Рымскай імперыі). Што да народаў, якія вырошчваюць рыс, дык яны навучыліся выціскаць максімум з кожнага кавалачка зямлі задоўга да наступлення Новага часу. Інакш яны б не выжылі. Да інтэнсіўнага земляробства іх падштурхоўвала і неабходнасць стварэння арашальных сістэм.

Сучасная масавая вытворчасць з'яўляецца інтэнсіўнай па азначэнні. Таму і стаў магчымы выбухны эфект у працэсе спалучэння заходніх тэхналогій са шматвяковай традыцыяй інтэнсіўнага працы ў краінах Паўднёва-Усходняй Азіі.

Носьбітам традыцыйнай беларускай культуры ў гэтым сэнсе пахваліцца няма чым. На жаль, у рэспубліцы-партызанцы яны складаюць большасць. Гэта яны ў 1994 годзе дружна прыйшлі на выбарчыя ўчасткі і паставілі дэмакратычны крыж на спробах меншасці перайсці ад экстэнсіўнай эканамічнай мадэлі савецкага ўзору да мадэлі інтэнсіўнай.

ЭКАЛОГІЯ

# КУДЫ СПЯШАЕМСЯ З АЭС?

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь шалёнымі тэмпамі будуе атамную станцыю. Як паведаміў міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык, краіна завяршае падрыхтоўчы этап будаўніцтва АЭС у Астраўцы і ў чэрвені-ліпені прыступае да ўзвядзення станцыі.**




«Мы зараз заканчваем падрыхтоўчы этап будаўніцтва, і ў бліжэйшы час пасля рашэння некаторых працэдурных пытанняў, звязаных з выдачай ліцэнзіі рэгулюючага органа, з экспертызай архітэктурнага праекта, каштарысу расходаў і прыняцця адпаведнага ўказа, прыступім уласна да будаўніцтва самой атамнай станцыі. Па нашых разліках, гэта павінна адбыцца ў чэрвені-ліпені гэтага года», — заявіў міністр.

Ён падкрэсліў, што абраны праект Беларускай АЭС належыць да новага пакалення «3+». «Гэта самае сучаснае, што ёсць на сённяшні дзень у атамнай энергетыцы», — сказаў Патупчык.

Але ж раней беларускія эколагі і «зялёныя» актывісты казалі, што так званы «падрыхтоўчы этап» будаўніцтва АЭС у Астраўцы вядзецца без якога-небудзь архітэктурнага праекта. А спадар Патупчык кажа ўжо пра «экспертызу» гэтага праекта. Дарэчы, што гэта за экспертыза, якая цягнецца два тыдні, якія засталіся да пачатку чэрвеня?

Адказны сакратар камісіі грамадскай экалагічнай экспертызы праекта беларускай АЭС Таццяна Новікава тут падкрэслівае цікавы момант: калі Патупчык кажа, што вядзецца экспертыза праекта, то зараз станцыя будуецца сапраўды без праекта. «Той катлаван і заліўка бетону — гэта не падрыхтоўчыя працы. Гэта не вынас смецця, не расчыстка тэрыторыі, не будка дворніка. Гэта паўнавартаснае будаўніцтва. А значыць, яно вялося і вядзецца без праекта», — сказала Новікава.

Паводле яе слоў, расійскі распрацоўшчык АЭС абяцаў у першым квартале 2014 года перадаць гэты праект на расійскую экспертызу. «Я не ведаю, ці існуюць у нас нейкія пагадненні адносна экспертнай дзейнасці, але лічу, што праект абавязкова павінен прайсці беларускую экспертызу ў Мінпрыроды. Але ў Мінпрыроды няма сваіх спецыялістаў у галіне АЭС. Яны ёсць у ядзерным інстытуце «Сосны», але гэты інстытут экспертнай дзейнасцю не займаецца. Таму трэба ствараць спецыяльную камісію, з адпаведных спецыялістаў, і гэтак далей. Карацей, за два тыдні такую справу не зробіш», — лічыць Новікава.

Нават да канца чэрвеня правесці экспертызу такога аб'екта, па меркаванні Новікавай, вельмі складана. Бо АЭС, якая будуецца ў нас, — гэта эксперыментальная станцыя. Нідзе ў свеце няма такой працуючай АЭС — яны толькі будуюцца. І праводзіць экспертызу эксперыментальнай станцыі за пару тыдняў, і нават месяцаў — гэта нонсэнс. Фактычна, гэта падмахванне паперак без усялякай экспертызы.

Але тут ёсць яшчэ адна закавыка. Беларусь з паўнавартасным пачаткам будоўлі (дый без яго таксама) рызыкуе трапіць у вялікі міжнародны скандал. Гэта звязана з тым, што літаральна напачатку мая ў сакратарыяце Канвенцыі Эспаа (Канвенцыя аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе ў трансгранічным кантэксце) была разгледжаная скарга Літвы наконт таго, што Беларусь да гэтага часу не дала адказу на многія пытанні Літвы адносна бяспекі Беларускай АЭС у Астраўцы. «Літоўцам не былі прадстаўлены поўны дакумент ацэнкі ўздзеяння станцыі на навакольнае асяроддзе», — патлумачыла Новікава.

З гэтай нагоды сакратарыят Канвенцыі Эспаа выдаў свае рэкамендацыі Беларусі адносна канфлікту з Літвой. А канкрэтна: працягнуць кансультацыі і прадставіць неабходную інфармацыю.

«Увогуле, працэдура будаўніцтва такая: спачатку вядуцца кансультацыі з зацікаўленымі бакамі, потым, калі дасягнуты кансэнсус, і ўсіх усё задавальняе, прымаецца рашэнне пра будаўніцтва станцыі, і яна пачынае будавацца. Кансультацыі з Літвой, такім чынам, не скончаныя, а будоўля, паводле Патупчыка, павінна ўвайсці ў актыўную фазу. Гэта наўпростае парушэнне Канвенцыі Эспаа Беларуссю, і азначае, што нашая краіна не выконвае гэтай канвенцыі», — кажа Новікава.

У любым выпадку: куды Беларусь так спяшаецца з пабудовай атамнай станцыі? Няўжо яе сапраўды трэба здаваць да нейкага «стагоддзя Вялікага Кастрычніка» ці яшчэ да якой даты, як станцыю ў Чарнобылі? Паспешлівасць у такой справе, як пабудова АЭС, можа выклікаць яшчэ адну катастрофу. Нельга будаваць такія аб'екты тэмпамі «пяцігодку ў чатыры гады». Тым больш, што ніякіх «пяцігодак» у гэтым плане не існуе, а ўсе тэрміны, на якія першапачаткова разлічвалі беларускія ўлады ў будаўніцтве АЭС, даўно пратэрмінаваныя.

Спадару Патупчыку трэба было б памятаць, што паспешлівасць добрая толькі пры лоўлі блох, а вельмі хутка нават кацяняты не нараджаюцца. Варта было б уладзе зрабіць усё, як трэба, тады б менш было скандалаў і ўвагі да будаўніцтва АЭС.

БЕЛАРУСЬ — ЕС

# ПЛЯЦОЎКА ДЛЯ АПРАЦОЎКІ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларуская апазіцыя ў чарговы раз перайграла ўлады ў дыпламатычнай вайне.**




Раней шмат было спрэчак у Еўропе, каго запрашаць на пасяджэнні Парламенцкай асамблеі «Усходняга партнёрства»: цяперашніх беларускіх парламентараў альбо апазіцыю як рэшткі легітымнага Вярхоўнага савета 13-га склікання. Зараз Еўропа вызначылася.

Паўдзельнічаць у трэцяй пленарнай сесіі Парламенцкай асамблеі «Усходняга партнёрства» (Еўранэст), які пройдзе 28–29 траўня ў Брусэлі, запрошаны Партыя БНФ, Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Рух «За Свабоду», грамадзянская кампанія «Гавары праўду», а таксама аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Адзінае пытанне: што ў Еўранэсце здолее зрабіць апазіцыя? Пачнём з таго, што Еўранэст — гэта парламенцкі кампанент ініцыятывы ЕС «Усходняе партнёрства», які пачаў працу ў 2011 годзе. У сесіях Еўранэста ўдзельнічаюць дэпутаты Еўрапейскага парламента і пяці краін — удзельніц «Усходняга партнёрства»: Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Малдовы і Украіны. Беларусь з яго выключаная, бо дагэтуль не разабраліся, ці могуць там удзельнічаць нелегітымныя парламентарыі.

З іншага боку, у апазіцыі няма ані ўлады, ані ўплыву на сітуацыю ў краіне ў глабальным сэнсе.

А Еўранэст абмяркоўвае глабальныя рэчы. Такія, як пытанні энергетычнай інфраструктуры, гандлёвыя пагадненні, будучыню дэмакратыі, свабодных і незалежных СМІ, супрацоўніцтва паміж урадамі і грамадзянскімі супольнасцямі.

Па прапанове дэлегацыі Украіны, якая заявіла сваёй мэтай уступленне ў Еўрасаюз, ва ўстаноўчых дакументах Еўранэста было замацавана палажэнне аб перспектыве сяброўства ў Еўрасаюзе краін — удзельніц «Усходняга партнёрства». Парламенцкая асамблея можа спрыяць і усталяванню бязвізавага рэжыму з ЕС. Афіцыйнаму Мінску, ад якога залежыць вырашэнне гэтых пытанняў, яны не тое што не цікавыя — падаецца, што цалкам не патрэбныя. Бо ўлада тармозіць нават увядзенне малога памежнага руху з Польшчай і Літвой.

Статут Еўранэста лічыць найважнейшай задачай садзейнічанне гарманізацыі нацыянальнага заканадаўства ўсходнееўрапейскіх партнёраў з заканадаўствам Еўрасаюза. Такая гарманізацыя афіцыйным беларускім уладам, канешне ж, сто гадоў не патрэбная: варта забяспечыць рэальны прынцып падзелу ўладаў — і ўся сістэма ляснецца.

Да таго ж рэальных грошай у бюджэт удзел у Еўранэсце Беларусі не прынясе, а таму яно не ўяўляе і практычнага інтарэсу для ўладаў. Карацей, Еўранэст уладам не патрэбны, а апазіцыя ў ім рэальна нічога зрабіць не можа.

Пытанне, напэўна, у тым, што беларуская апазіцыя атрымае чарговую еўрапейскую трыбуну. Як заявіў, каментуючы прапанову паўдзельнічаць у Еўранэсце, лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, «прысутнасць прадстаўнікоў апазіцыі на сесіі дазваляе наўпрост даносіць інфармацыю пра становішча ў Беларусі да еўрапарламентараў». «Мы будзем казаць пра развіццё палітычнай сітуацыі ў краіне, у тым ліку аб неабходнасці вызвалення палітвязняў, а таксама пра тое, што Еўрасаюз можа зрабіць для Беларусі ўжо цяпер у аднабаковым парадку. Я маю на ўвазе спрашчэнне візавага рэжыму, інтэнсіфікацыю кантактаў паміж людзьмі (у тым ліку на ўзроўні малога і сярэдняга бізнэсу). Таксама мы будзем казаць пра перспектывы адносін Еўрасаюза і Беларусі ў выпадку, калі палітвязні будуць вызваленыя. У прыватнасці, мы прапануем вярнуцца да перамоваў з Беларуссю ў рамках «Сумеснага часовага плану» (кансультацыі былі распачаты восенню 2010 года), што будзе спрыяць мадэрнізацыі і лібералізацыі краіны», — заявіў Янукевіч.

Гэта значыць, апазіцыя будзе пець у Еўранэсце старыя песні пра галоўнае: палітвязні, дыктатура, і ўсё такое іншае. Застаецца толькі гэта, бо рэальна вырашаць тыя пытанні, якія закладзены ў межах «Усходняга партнёрства», — энергетыка, эканоміка, сяброўства ў ЕС і гэтак далей, — апазіцыя папросту не ў стане па аб'ектыўных прычынах.

Тым больш, што, як зазначыў палітолаг, дырэктар Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі Андрэй Ягораў, беларускай апазіцыі шмат чаго зрабіць проста не дадуць — рэгламент не дазваляе. «Статус беларускай апазіцыйнай дэлегацыі — гэта статус назіральнікаў. Яны, вядома, змогуць там выступіць з заявай, растлумачыць тыя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі, паспрабаваць данесці сваё меркаванне пра гэтыя працэсы, заявіць сваю пазіцыю. Можа, яны дададуць каментарыяў да дакладу спадара Палецкіса, які прыязджаў у Беларусь за падрыхтоўкай дакладу па сітуацыі ў краіне», — кажа Андрэй Ягораў.

Але значна больш уплывовымі могуць стаць сустрэчы апазіцыянераў з дэлегатамі — парламентарамі краін «Усходняга партнёрства» ў кулуарах. «Менавіта ў кулуарах беларускія апазіцыянеры могуць растлумачыць сваім візаві з краін СНД, чаму нельга запрашаць на падобныя саміты афіцыйную дэлегацыю Палаты прадстаўнікоў, чаму яна не павінна з'яўляцца ўдзельнікам Еўранэста, і абмеркаваць з імі сітуацыю ў Беларусі і спосабы яе трансфармацыі», — лічыць Ягораў.

Між тым, наўрад ці спрэчкі вакол запрашэння афіцыйнай дэлегацыі на Еўранэст цалкам скончаныя. Гэтае пытанне непазбежна паўстане зноў. І прадстаўнікі беларускай апазіцыі павінны хаця б паспрабаваць зменшыць «антыапазіцыйнае праўладнае лобі» ў Еўранэсце. Акрамя таго, можа ў іх атрымаецца завязаць больш шчыльныя кантакты з прадстаўнікамі парламентаў краін — удзельніц «Усходняга партнёрства».

У любым выпадку, Еўранэст у еўрапейскай палітыцы мала што вырашае. Аднак як пляцоўку для сустрэчаў апазіцыя можа выкарыстаць яго напоўніцу.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КОЛЬКІ КАШТУЕ СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ?

Сяргей ПУЛЬША




**У Беларусі вынесены чарговы смяротны прысуд. Паведамленне пра яго ў чарговы раз прымусіла Еўропу ўзняць праблему смяротнага пакарання ў нашай краіне.**

## Еўропа заступаецца

Як паведаміла старэйшы памочнік пракурора Магілёўскай вобласці Ала Кузняцова, асуджаны, якому прызначаная выключная мера пакарання, — вельмі адмоўная асоба, што прадстаўляе вялікую грамадскую небяспеку, ён знаходзіўся на прафілактычным уліку ў турме №4 як схільны да ўцёкаў, нападу, суіцыду. «Асуджаны ўяўляе небяспеку для грамадства нават ва ўмовах строгай ізаляцыі. Выпраўленне яго з дапамогай прызначэння пазбаўлення волі на доўгі тэрмін або пажыццёвага заключэння не магчыма. Прызначэнне такога пакарання, як смяротнае пакаранне, у дадзеным выпадку цалкам апраўдана», — сказала прадстаўнік абласной пракуратуры.

Але нават за такога забойцу заступіліся еўрапейцы.

Вярхоўны прадстаўнік Еўрапейскага саюза па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан выказала шкадаванне з нагоды вынесенага прысуду і заклікала Мінск далучыцца да глабальнага мараторыя на смяротнае пакаранне. «Еўрапейскі саюз выступае супраць смяротнага пакарання пры любых абставінах, ЕС лічыць смяротнае пакаранне жорсткім і бесчалавечным пакараннем, якое не ў стане служыць фактарам стрымлівання і ўяўляе сабой непрымальнае адмаўленне годнасці і недатыкальнасці чалавека», — гаворыцца ў заяве Эштан.

Эштан усведамляе сур'ёзны характар злачынства, за якое гэта асоба асуджана, але не верыць, што смяротнае пакаранне ўвогуле калі-небудзь можа быць апраўданае.

Дакладчыкі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) па адмене смяротнага пакарання Марына Шустэр і па сітуацыі ў Беларусі Андрэс Херкель асудзілі вынясенне ў Беларусі чарговага смяротнага прысуду. «Нягледзячы на знакі, якія паказваюць на перспектыву ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне і пэўны прагрэс у адносінах паміж Беларуссю і ПАСЕ, вынесены смяротны прысуд аддаліць Беларусь ад Еўропы, — гаворыцца ў заяве. — Мы заклікаем улады Беларусі зрабіць усё магчымае, каб гэты прысуд не быў прыведзены ў выкананне. Смяротнае пакаранне як форма пакарання з'яўляецца недапушчальным парушэннем правоў чалавека, незалежна ад здзейсненага злачынства».

Прадстаўнікі еўрапейскіх структур заклікаюць захаваць жыццё нават несумненнаму забойцы. Але, калі пазбавіць эмоцыяў і паглядзець на гэта прагматычна, то чаму б і не? І што нам за гэта будзе?

## Беларусь як выключнасць

Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая скарыстоўвае смяротнае пакаранне. Гэта пытанне даўно стаіць паміж нашай краінай і пэўнымі структурамі Еўропы. Таксама, як выключэнне па смяротнаму пакаранню, Беларусь з'яўляецца адзінай краінай, якая не ўваходзіць у Савет Еўропы, і, адпаведна, у Парламенцкую асамблею Савета Еўропы. Але так было не заўсёды.

У 1993 годзе беларускі парламент атрымаў статус спецыяльнага запрошанага ў ПАСЕ, але ўжо ў 1996-м быў пазбаўлены яго пасля рэферэндуму, які ўзаконіў смяротнае пакаранне.

У чэрвені 2009 года ПАСЕ прыняла рэзалюцыю аб вяртанні Беларусі статусу спецзапрошанай пры ўмове адмены смяротнага пакарання ці ўвядзення мараторыя на яго. Аднак ужо ў наступным годзе ў Беларусі пайшлі новыя пакаранні, пасля чаго ПАСЕ афіцыйна рэкамендавала сваім сябрам не наведваць краіну. Пасля расстрэлу ў 2012 годзе Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, абвінавачаных у здзяйсненні тэракту ў мінскім метро, генсакратар Савета Еўропы Турб'ерн Ягланд заявіў: «Наяўнасць у Беларусі смяротнага пакарання не дазваляе ёй мець які-небудзь статус у рамках Савета Еўропы».

То бок, менавіта смяротнае пакаранне з'яўляецца асноўным тормазам для нармалізацыі адносінаў з Еўропай.

> **Выгада ад адмены смяротнага пакарання склала б пад мільярд еўра. Не кажучы пра тое, што Беларусь стала б у адзін шэраг з цывілізаванымі краінамі**

## Што атрымае Беларусь?

Такім чынам, са скасаваннем смяротнага пакарання Беларусь можа ўвайсці ў Савет Еўропы. А з уваходам у Савет Еўропы Беларусь можа атрымаць вельмі шмат.

Палітолаг Юры Чавусаў тлумачыць, што Савет Еўропы, канешне ж, не тая структура, якая выдае грошы. Гэта адна з інстытуцый, якая забяспечвае стабільнасць на еўрапейскім кантыненце, і стваралася яна дзеля забеспячэння дэмакратыі і правоў чалавека. Але ж Савет Еўропы адначасна вядзе шмат праектаў у галіне, напрыклад, рэформы судовай сістэмы альбо барацьбы са злачыннасцю.

«Савет Еўропы — гэта, канешне, не банк і не фонд. Але ў яго ёсць пэўны бюджэт праектаў, якія маглі б зацікавіць Беларусь. Прычым, гэта не крэдыты, не нейкія інвестыцыі. Хутчэй, гэта гранты на пэўныя мэты і задачы, і грошы гэтыя потым вяртаць не трэба», — адзначае Чавусаў.

Бюджэты гэтых праектаў, па словах Чавусава, шматмільённыя. І гэтыя мільёны могуць больш актыўна прыходзіць у Беларусь. «Гэта не тая сфера, канешне, якая б магла выратаваць беларускую эканоміку, але гэтыя грошы прывабныя для любога міністэрства і ведамства. Гэта грошы ў рамках так званай тэхнічнай дапамогі. Нават зараз гэтыя праекты працуюць, і Беларусь атрымлівае грошы, напрыклад, на барацьбу з кіберзлачыннасцю», — заўважыў эксперт.

Пры ўступленні ў Савет Еўропы гэта супрацоўніцтва б актывізавалася. Савет Еўропы хвалююць праблемы ўцекачоў, праблемы экалогіі, барацьба са злачыннасцю, і Беларусь магла б мець на гэта большыя грошы, чым зараз. «Просты прыклад: калі едзеш у Польшчы ці Літве, шмат над якімі дарогамі сустрэнеш шыльду, што гэтая дарога пабудавана ў супрацоўніцтве з Еўрасаюзам, паркі добраўпарадкаваныя з дапамогай Савета Еўропы і гэтак далей. У нас такіх шыльдачак няма, але ж усё гэта — еўрапейскія грошы», — кажа Чавусаў.

Па яго ных словах, ён на свае вочы бачыў дакумент, распрацаваны ўладамі Беларусі для атрымання еўрапейскай тэхнічнай дапамогі. «Там некалькі дзясяткаў праектаў, розных на некалькі гадоў, з канкрэтнымі мэтамі і лічбамі. З адказнымі за выкананне міністэрствамі. Гэтая заяўка цягне прыкладна на 600 мільёнаў еўра», — паведаміў Чавусаў.

Апроч гэтага, з уступленнем у Савет Еўропы і ПАСЕ, Беларусь значна б актывізавала свае дзеянні ў межах іншых еўрапейскіх праграм. Напрыклад, такіх, як «Усходняе партнёрства». І Беларусі ёсць што прапанаваць. Зараз Беларусь выступае за распрацоўку канкрэтных праектаў, накіраваных на развіццё сеткі энергетычных і транспартных камунікацый, умацаванне рэгіянальнай энергетычнай бяспекі, барацьбу з экалагічнымі пагрозамі, умацаванне бяспекі межаў і мытнага ўзаемадзеяння. Беларусь прапануе стварэнне рэгіянальных механізмаў па прыцягненню дадатковых інвестыцый, а таксама ўстаноў бізнэс-фармату «Усходняга партнёрства» як пастаяннай пляцоўкі для дыялогу і супрацоўніцтва паміж дзелавымі і эканамічнымі асацыяцыямі краін-партнёраў і ЕС.

Карацей, выгада ад адмены смяротнага пакарання склала б пад мільярд еўра. Не кажучы пра тое, што Беларусь стала б у адзін шэраг з цывілізаванымі краінамі і перастала б быць белай варонай на еўрапейскім кантыненце.

## Што перашкаджае выгадзе?

Увесці мараторый на смяротнае пакаранне не перашкаджае нічога. Для гэтага няма ніякіх прававых перашкод. Па-першае, у Канстытуцыі прапісана, што смяротная кара носіць часовы характар. Па-другое, ёсць рашэнне Канстытуцыйнага суда, прынятае яшчэ ў 2004 годзе, аб тым, што для ўвядзення мараторыя ці адмены смяротнай кары няма неабходнасці праводзіць рэферэндум.

Ва ўладных колах любяць спасылацца на выніку рэферэндуму 1996 года, калі амаль 80 працэнтаў беларусаў прагаласавалі за захаванне выключнай меры пакарання. Але гэтае рашэнне было прынята 17 гадоў таму. За гэты час паспела вырасці цэлае пакаленне. Дый стаўленне людзей да наяўнасці смяротнага пакарання значна змянілася. Згодна апытанню НІСЭПД, за захаванне смяротнага пакарання ў Беларусі ў верасні 2012 года (больш свежых дадзеных няма) выступала толькі 49,1% беларусаў, а гэта — менш паловы. 40,7% выступілі за адмену смяротнай кары.

Варта таксама адзначыць, што мараторый на смяротнае пакаранне — не ёсць адменай смяротнага пакарання. У ЗША быў мараторый на смяротнае пакаранне з 1972 па 1976 гады на ўсёй тэрыторыі краіны. Пасля мараторый адмянілі, але ўжо не паўсюль.

Дык чаму б не правесці эксперымент?

## Чаму б не ўвесці мараторый?

Аўтар кнігі «Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт» Валер Карбалевіч перакананы, што для ўвядзення мараторыя існуюць і псіхалагічныя праблемы. «У Лукашэнкі псіхалогія ўладара старажытнага свету, які меў права караць смерцю ці міласаваць. Калі ён адмовіцца ад права караць, дык ён нібыта сам адразае ад сябе частку ўладных паўнамоцтваў. Што ж за кіраўнік такі, які не валодае жыццямі сваіх падначаленых?» — кажа Карбалевіч.

Зазначае эксперт і яшчэ адзін больш псіхалагічны момант: тая частка грамадства, якая выступае за захаванне смяротнага пакарання, і ёсць электаратам Аляксандра Лукашэнкі. «У цэлым грамадства падзеленае прыкладна пароўну: 50% за адмену, а 50% супраць смяротнага пакарання. Але тая частка, якая за захаванне смяротнай кары — гэта электарат Лукашэнкі. Ён гэта адчувае», — адзначае Карбалевіч.

І Лукашэнка, канешне б, жадаў атрымаць ад Еўропы значныя бонусы ў такім пытанні, як адмена смяротнага пакарання.

## Грошы альбо амбіцыі

Такім чынам, мараторый на смяротнае пакаранне ў Беларусі цалкам можа быць уведзены. Варта толькі патлумачыць уладам, што атрымаем мы ад гэтага значна больш (і ў грашовым вымярэнні, і ў іміджавым), чым страцім.

Канешне, усе эксперты адзначалі, што ў выпадку ўваходжання ў Савет Еўропы над сучаснай уладай тады навісне пагроза Еўрапейскага суда па правах чалавека. Але для Беларусі, падаецца, гэта не праблема. Не выконвае ж Беларусь рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН?

Ды што Беларусь! У Расіі ў адной Маскве 1172 чалавекі маюць на руках нявыкананыя судовыя рашэнні ЕСПЧ. І нішто — Расія трымаецца.

Так што праблема мараторыя на смяротнае пакаранне — гэта выключна праблема аднаго ўказа. Які, як адзначалася вышэй, прынясе значна больш выгод, чым стратаў.

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 20 МАЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Камедыя «Іван Васільевіч змяняе прафесію» (СССР).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.35** Клуб рэдактараў.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Анімацыйны фільм «Іван Царэвіч і шэры воўк» (Расія).
**17.05** Камедыя «М+Ж» (Расія).
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 1-я серыя.
**23.25** Дзень спорту.
**23.35** Серыял «Майстры жахаў».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здаровейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Камедыя «У адкрытым моры».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Былая жонка».
**23.10** Фільм «Следапыт».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Глядзець усім!».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Дзіўная справа».
**15.30** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Клятва». Кітай - ЗША - Паўднёвая Карэя, 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Пякельная кухня - 2». Фінал.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Блізкія людзі» (Расія).
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.55** Лірычная меладрама «Вакзал для дваіх» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**13.55** «Сведка» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Баявік «Херувім» (Расія).
**20.50** Імперыя песні. «На біс».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Трылер «Кантракт» (ЗША).
**23.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Чэлсі - Эвертан.
**01.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**02.10** Авертайм.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Справа Х. Следства працягваецца».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.30** Тэлесерыял «Я прыйду сама».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Выбачыце, мы не ведалі, што ён нябачны».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Бездань».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.15** «Цэнтр дапамогі «Анастасія».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Выніковая праграма «Разам».
**10.00** Х/ф «Верыш, не верыш».
**11.30** «Агульны інтарэс».
**12.25** «Агульны рынак».
**12.40** «Простая мова».
**12.55** Т/с «Управа».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер, сезон 4».
**21.25, 05.25** «Свет Спорту».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце людзей».
**23.35** Т/с «Юнкеры».
**01.25** «Зроблена ў СССР».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**08.55** Дакументальная гадзіна: «Ваўчыная маці», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**09.25** Два на два (тэледыскусія).
**09.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** Форум (ток-шоў).
**11.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Бункеры Трэцяга Райху».
**11.35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2013», канцэрт: выступ гурта «Крамбамбуля».
**12.00** Фільматэка майстроў: «Сямейка Смітаў», рамантычная камедыя, 2005 г., ЗША.
**14.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**14.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**15.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**16.00** Дакументальная гадзіна: «Ваўчыная маці», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**16.30** Два на два (тэледыскусія).
**16.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Бункеры Трэцяга Райху».
**17.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 31.
**18.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.30** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Сямейка Смітаў», рамантычная камедыя, 2005 г., ЗША.
**23.20** Студыя «Белсат».
**01.25** Асабісты капітал.
**01.50** Аб'ектыў.
**02.15** Асабісты капітал.
**02.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 21 МАЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 1-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 2-я серыя.
**23.35** Дзень спорту.
**23.50** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здаровейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Былая жонка».
**23.10** Фільм «Адбой».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «NEXT 3». Серыял.
**09.45** «Такі лёс».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Помста». Данія - Швецыя, 2010 г.
**16.00** «Уявіце сабе».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Укол парасонікам». Францыя, 1980 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Блізкія людзі» (Расія).
**10.20** Авертайм.
**10.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**12.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.05** Баявік «Херувім» (Расія).
**14.55** Трылер «Кантракт» (Германія-ЗША).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Баявік «Херувім» (Расія).
**20.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Меладрама «Любоўная ліхаманка» (ЗША).
**23.50** Дак. серыял «Цуды прыроды».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Хутаранец».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.15** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Смерць Вазір-Мухтара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.30** Тэлесерыял «Я прыйду сама».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.00** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Чыстасардэчнае прызнанне.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Бездань».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.15** «Цэнтр дапамогі «Анастасія».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** М/ф «Першае спатканне».
**12.25** «Незорнае дзяцінства».
**12.55** Т/с «Управа».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер, сезон 4».
**21.25, 05.25** «Саюзнікі».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце сакрэтных ведаў».
**23.35** Т/с «Юнкеры».
**01.25** «Усюды жыццё».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**10.10** «У Бога за пазухай», камедыя, 1998 г., Польшча.
**11.45** Студыя «Белсат».
**13.25** Асабісты капітал.
**13.45** Аб'ектыў.
**14.10** Не прапусці! (параднік гледача).
**14.30** Еўропа сёння.
**15.00** «У Бога за пазухай», камедыя, 1998 г., Польшча.
**16.40** «Дэфект», тэлесерыял: 1 серыя.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.05** На колах.
**18.30** Без рэтушы: «Жыццё апазіцыянера ў правінцыі», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Чорным па белым.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 20 серыя.
**22.30** Назад у будучыню.
**22.45** Форум (ток-шоу).
**23.35** Студыя «Белсат».
**01.05** Чорным па белым.
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 22 МАЯ, СЕРАДА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 2-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).
**16.40** Зямельнае пытанне.
**17.10** Медычныя таямніцы.
**17.45** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 3-я серыя.
**23.35** Дзень спорту.
**23.50** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Былая жонка».
**23.10** Фільм «Конан Варвар».
**01.05** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «NEXT 3». Серыял.
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Укол парасонікам». Францыя, 1980 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Больш, чым сябар». ЗША, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Блізкія людзі» (Расія).
**10.20** Наперад у мінулае.
**11.00** Дак. серыял «Цуды прыроды».
**12.00** Цела чалавека.
**12.35** Баявік «Херувім» (Расія).
**14.30** Камедыя «Траянскі конь» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Баявік «Херувім» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Гістарычная драма «Вершнік з імем Смерць» (Расія).
**23.40** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Хутаранец».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Смерць Вазір-Мухтара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.30** Тэлесерыял «Я прыйду сама».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Храм жалобы і славы».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі..».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Бездань».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.15** «Цэнтр дапамогі «Анастасія».

**МИР**

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Дынастыя».
**10.00** М/ф «Без году тыдзень».
**11.30** «Зроблена ў СССР».
**12.25, 01.25** «Даведнік».
**12.55** Т/с «Управа».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер, сезон 4».
**21.25, 05.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце цудаў».
**23.35** Т/с «Юнкеры».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 20 серыя.
**11.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.05** Форум (ток-шоу).
**12.55** Студыя «Белсат».
**13.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**14.00** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** «Доктар Марцін», серыял: 20 серыя.
**16.00** Форум (ток-шоу).
**16.50** «Час гонару», серыял: 33 серыя.
**17.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**18.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Зямля абяцаная»: 2 серыя.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Невядомая Беларусь: «Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**23.35** Студыя «Белсат».
**01.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 23 МАЯ, ЧАЦВЕР

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00** 23.20 Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Ўкраіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.50** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 3-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).
**16.40** Каробка перадач.
**17.15** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Ўкраіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «Ліквідацыя» (Расія). 4-я серыя.
**23.40** Дзень спорту.
**23.50** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Паўднёвая Карэя).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Былая жонка».
**23.10** Камедыя «Усё пра Стыва».
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «NEXT 3». Серыял.
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Больш, чым сябар». ЗША, 2010 г.
**15.40** «Якія людзі!».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Мінчшына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Алімпійская вёска». Расія, 2011 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Блізкія людзі» (Расія). Заключная серыя.
**10.15** Вышэй за дах.
**10.55** Дак. серыял «Цуды прыроды».
**11.30** «Мама, я жывы» («Беларусьфільм»).
**12.55** Баявік «Херувім» (Расія).
**14.45** Гістарычная драма «Вершнік з імем Смерць» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Баявік «Херувім» (Расія). Закл. серыі.
**20.50** Імперыя песні. «На біс».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйная меладрама «Жанчыны» (ЗША).
**23.45** Час футболу.
**00.30** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Чэхія).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Хутаранец».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Смерць Вазір-Мухтара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Сямейны дэтэктыў».
**21.30** Тэлесерыял «Я прыйду сама».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Паядынак».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Бездань».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.15** «Цэнтр дапамогі «Анастасія».

**МИР**

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** М/ф «Прыезджая».
**12.25, 01.25** «Дыяспары».
**12.55** М/ф «Іншы».
**14.45** «Кыргызстан у асобах».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-Шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер, сезон 4».
**21.25, 05.25** «Беларусь сёння».
**21.55, 03.40** Д/ф «Прыгоды замежнікаў у Расіі».
**23.35** Т/с «Юнкеры».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Зямля абяцаная»: 2 серыя.
**11.05** Невядомая Беларусь: «Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**11.35** Без рэтушы: «Жыццё апазіцыянера ў правінцыі», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**12.05** Студыя «Белсат».
**13.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.45** Аб'ектыў.
**14.10** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.30** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** «Зямля абяцаная»: 2 серыя.
**15.55** Два на два (тэледыскусія).
**16.20** Невядомая Беларусь: «Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**16.45** Без рэтушы: «Жыццё апазіцыянера ў правінцыі», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.00** «Час гонару», серыял: 34 серыя.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**22.35** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**22.45** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** Рэпартэр.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

ІНТРЫГІ



Адстаўка Суркова ўкладваецца ў дух палітыкі апошняга часу, мэта якой — забеспячэнне татальнага адзінства ўлады. Але гэта даўно не тычыцца знешняй палітыкі

# ПОСТСУРКОЎСКІ СНД

Алег НОВІКАЎ

**Ці зменяцца адносіны Масквы з краінамі СНД пасля адстаўкі віцэ-прэм'ера Уладзіслава Суркова, якога называлі шэрым кардыналам Крамля? Адказ на гэта пытанне цікавіць як аналітыкаў у Маскве, так і палітыкум прасторы СНД.**

За час знаходжання на пасадзе віцэ-прэм'ера Уладзіслава Суркова некалькі разоў бачылі на самітах СНД. Некалькі разоў ён сустракаўся з прэзідэнтамі краін садружнасці. Аднак ніводная з гэтых сустрэч не цягнула на гістарычную. Таму можна выказаць здагадку, што пасаду Суркоў страціў з-за перыпетый расійскай унутранай палітыкі. У палітолагаў ёсць некалькі асноўных версій апалы віцэ-прэм'ера.

Па адной з іх, быццам бы, Суркоў, які палічыў сябе геніяльным камбінатарам, дапусціў стратэгічную памылку, калі навязаў Крамлю ідэю тандэму Пуцін—Мядзведзеў. Ідэя выклікала на нейкім этапе прэзідэнцтва Мядзведзева чуткі пра канфлікт з Пуціным, а яго самога дэмсілы надзялілі функцыямі свайго кансалідатара. Пасля таго, як Пуцін у дастаткова даходлівай форме даў зразумець, што Мядзведзеў быў тэхнічным прэзідэнтам, грамадства перажыло шок, які прывёў да падзей на Балотнай у мінулым годзе. Дайшло да таго, што Суркова называюць «канструктарам Балотнай».

Прыхільнікі другой версіі ўказваюць на яўныя правалы праекту навукова-тэхнічнага парку «Сколкава», які Суркоў асабіста патранаваў як вялікі аматар інавацый. У расійскай прэсе «Сколкава» часам называлі «наша Панама» (славутая афера ў Францыі з будаўніцтвам Панамскага каналу). Пайшлі спекуляцыі пра тое, што праз «Сколкава» праходзілі каналы фінансавання апазіцыі.

Аднак гэта дробязь. Ёсць версія, што галоўнага кансультанта Крамля пасунулі больш значныя тэктанічныя сілы. Некаторыя СМІ лічаць, што мы знаходзімся на этапе новай эры расійскай палітычнай рэчаіснасці, галоўныя характарыстыкі якой, паводле версіі выдання «Известия», — «новы монацэнтрызм, адмова ад сістэмы тандэму, нацыяналізацыя эліты і дыстанцыя ад «баяраў», палітычная рэформа і маралізм».

Відавочна, што такія радыкальныя змены парадыгмы павінны адлюстравацца на знешняй палітыцы. Як адзначае «Financial Times», «на змену постмадэрнісцкаму падыходу Суркова прыйшоў больш ідэалагічны і канфрантацыйны падыход з акцэнтам на нацыяналізм і антызаходнія настроі».

Каб адказаць, наколькі такія прагнозы маюць падставу, трэба даць фармулёўку стылю Суркова. Не выдумляючы веласіпед, дадзім тут слова палітолагам. Вось як яны характарызуюць спадчыну Суркова: «шматвектарнае кіраванне палітычнымі працэсамі і канфліктамі», «камбінацыя камунікацый у заходнім стылі з налётам аўтарытарызму, якая стварае бачнасць адкрытай палітычнай сістэмы».

Калі аналізаваць курс Крамля ў адносінах да краін СНД за апошнія 12 гадоў (гэты час Суркоў быў у фаворы), можна лёгка канстатаваць: прыкметы фірмовага стылю Суркова тут сустрэць цяжка. Якія там тонкія шматхадовыя камбінацыі? Дастаткова ўзгадаць касалапыя паводзіны адміністрацыі Пуціна ў часы аранжавай рэвалюцыі. Брутальныя газавыя войны, якія выклікалі антырасійскія фобіі нават у абываценя саюзніцкай Беларусі. А што казаць пра грузінскую вайну і яе іміджавыя наступствы для Расіі…

Адзіным прыкладам нейкага падабенства на тонкую гульню можа служыць серыял пра беларускага Бацьку на канале НТВ, які дэманстравалі напярэдадні выбараў 2010-га. Некаторыя лічаць, што гэты гібрыд фільмаў жахаў і кампрамату сапраўды перапужаў Мінск і прымусіў шукаць дыялог з Масквой напярэдадні 19 снежня, вынікам якога стала саступка Белтрансгаза ў абмен на прызнанне выбараў.

Так ці інакш, відавочна, што праславутыя маніпуляцыі Суркова за межы РФ ніколі не выходзілі. Падчас інтэграцыйных самітаў лідараў садружнасці гаворка ніколі не вялася пра стварэнне агульнай палітычнай прасторы, якая была б пабудаваная на каштоўнасцях філасофіі Суркова. Філасофіі, дарэчы, не такой ужо і адмоўнай. Менавіта пры Суркову ў Расіі ўзнік інстытут палітычных партый, механізм ратацыі ўлады на месцах, замацавалася ідэя адносна свабодных выбараў, культура адкрытай палітычнай дыскусіі ў выглядзе розных тэлешоў кшталту «Да бар'еру».

Нічога падобнага ад саюзнікаў па СНД Крэмль не патрабаваў. Як правіла, схема гульні заключалася ў тым, каб знайсці нейкага палітыка-сатрапа, які за знешнюю лаяльнасць атрымліваў бы поўную свабоду паводзін унутры краіны.

Таксама ніякай заўважнай ролі ў палітыцы Расіі на прасторах СНД даўно не гуляў расійскі Кабмін. Нагадаем, што адной з фішак Суркова была ідэя аўтаномнасці ўраду ад прэзідэнта. У гэтым плане некаторыя адзначаюць, што адстаўка Суркова ўкладваецца ў дух палітыкі апошняга часу, мэта якой — забеспячэнне татальнага адзінства ўлады. Але гэта даўно не тычыцца знешняй палітыкі. Увогуле, цяжка ўзгадаць пасля Прымакова нейкага прэм'ер-міністра, які б блакаваў ці адкрыта крытыкаваў актыўнасць гаранта РФ у блізкім і далёкім замежжы.

Такім чынам, мадэль Суркова не тычылася сферы СНД. Праўда, не зразумела асноўная прычына: рукі не даходзілі або ў Маскве нават такія адносна ліберальныя менеджары, як Суркоў, мяркуюць, што посткаланіяльная палітыка павінна будавацца выключна па прынцыпу пугі і перніка.

Застаецца высветліць, наколькі апісаная вышэй змена парадыгмы крамлёўскай улады паўплывае на палітыку адносна СНД. Каб не гадаць, лепш трошкі пачакаць. Думаецца, што калі новая мадэль сапраўды ўзнікне, яна будзе абкатаная на Украіне. У лістападзе Еўрасаюз абяцае ўключыць Украіну ў зону свабоднага гандлю, што можна разглядаць як самую вялікую пасля развалу СССР геапалітычную катастрофу Крамля. Ужо зараз ва Украіне імкліва актывізуюцца прарасійскія палітыкі, ідзе мабілізацыя ўсіх сіл гэтага лагера. Крэмль паграджае Кіеву ўсё большымі праблемамі ў выпадку далучэння да зоны свабоднага гандлю. На думку экспертаў, свайго апагею канфрантацыя дасягне на пачатку восені.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### БЕПЕ ГРЫЛА



Грыла — лідар італьянскага «Руху пяці зорак», які па выніках выбараў мае 162 дэпутата ў парламенце. Спачатку пасля выбараў грылісты, якія лічаць, што ўсю існуючую палітычную сістэму трэба кардынальна мяняць, спрабавалі займацца сабатажам працэсу абрання прэм'ера і прэзідэнта. Аднак у выніку ўрадавая каліцыя была створаная. Тады Бепе вярнуўся да старой анархісцкай ідэі ўніверсальнага страйку, які прымусіць урад пайсці ў адстаўку. Аднак без моцнага фонду салідарнасці такі страйк не арганізаваць. Фонд створаны, і яго асновай, на думку Грыла, можа стаць частка заробку дэпутатаў яго партыі. Па закону, кожны італьянскі парламентарый атрымлівае каля 5 тысяч еўра штомесяц. Паводле разлікаў лідара «Руху пяці зорак», народным абраннікам ад яго партыі дастаткова і 2500 еўра. Астатняе прапануецца пералічыць у фонд. Аднак такая прапанова вельмі не спадабалася частцы дэпутатаў-грылістаў. Давялося Бепе збіраць тэрміновае пасяджэнне фракцый «Руху пяці зорак» у ніжняй і верхняй палатах, якое, па словах сведкаў, ператварылася ў гарачую перапалку. Прэса піша, што Бепе нават назваў аднаго з аднапартыйцаў «шматком г…». Нягледзячы на жорсткі наезд кіраўніка на апазіцыю, барацьба за поўны заробак будзе працягвацца. Аўтарытэтная газета «La reppublica» правяла ананімнае апытанне парламентарыяў ад «Руху пяці зорак». Толькі 48 працэнтаў з іх гатовыя аддаць свае кроўныя на нейкую забастоўку.

### АРАНЧА КІРОГА



Аранча — 42-гадовая сябра кансерватыўнай «Народнай партыі» (PP), якая абраная кіраваць партыйнымі структурамі ў Краіне Баскаў. Місія вельмі цяжкая, асабліва з улікам таго, што PP — партыя, якая рашуча выступае за адзінства Іспаніі, а шмат баскаў патрабуюць пашырэння аўтаноміі краю аж да стварэння асобнай дзяржавы. Прэса піша, што выбар на карысць Аранчы быў звязаны з двума фактарамі: яна падабаецца прэм'еру Рахою, а Рахой хоча змяніць імідж партыі ў баскскім грамадстве, зрабіўшы акцэнт на абароне сямейных каштоўнасцяў. Новаабраны старшыня стопрацэнтна падыходзіць на такую ролю. Аранча вырасла ў баскскай сям'і і заўсёды была далёкай ад імперскай дыскусіі аб тым, што ніякіх баскаў не існуе. Хаця ў свой час радыкальныя нацыяналісты ёй пагражалі. Яна вядомая перш за ўсё як заўзятая каталічка і змагар з абортамі (у яе, дарэчы, 5 сыноў). Увогуле, нацыянальную славу ёй прынесла інтэрв'ю ў 2009 годзе, у якім Аранча заявіла, што «ніколі не карысталася прэзерватывамі». На яе адразу звярнулі ўвагу і пачалі штурхаць па партыйнай лесвіцы.

### АЙСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Малодшы ўнук казахскага прэзідэнта рыхтуецца да вясельнай цырымоніі. Ужо адбыўся кудалык (перадшлюбная цырымонія ў казахаў) і пачалася падрыхтоўка да вяселля. Абсалютна свецкая падзея адразу набыла глабальны палітычны падтэкст, паколькі спрэчкі вакол пераемніка Назарбаева працягваюцца. Праўда, у Айсултана хапае канкурэнтаў. Нагадаем, у прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева тры дачкі, адзін сын, тры ўнука, пяць унучак. Другі важны момант — сацыяльная прыналежнасць нявесты. Абранніцай Айсултана стала адна з дачок гендырэктара расійска-казахскай кампаніі АТ «КазРосГаз» Кайрата Баранбаева. Увогуле, інтарэс казахаў да інтымнага жыцця эліты выклікаў шмат дэбатаў. Некаторыя кажуць, што казахскае грамадства ўнутрана гатовае да таго, што дзяржавай і далей будзе кіраваць назарбаеўская дынастыя. Іншыя, наадварот, кажуць, што шлюб унука Назарбаева — гэта сродак пасмяяцца з прадстаўнікоў улады. Сапраўды, у казнэце шмат прыколаў на гэтую тэму. Некаторыя прапануюць абвясціць дзень вяселля Айсултана нацыянальным святам і прапанаваць праз ААН святкаваць дату яго паходу ў ЗАГС усім народам на планеце.

▸ ЛЁСЫ

# БЕЛАСТОЦКІЯ ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Жыхары вёскі Пасінічы Слонімскага раёна Іван і Людміла Літвінюкі шчыра сустрэлі мяне гарачай гарбаткай, цукеркамі і абаранкамі. «Частуйцеся абаранкамі, яны вельмі смачныя, сын з Мінска прывёз», — сказала гаспадыня і сардэчна запрасіла за стол.**



Фота аўтара

Іван Літвінюк




Карта тэрытарыяльных змен Польшы

*— А дзе ваш сын вучыцца ці працуе? — пытаюся ў Літвінюкоў.*

— Наш сын Аляксандр Літвінюк жыве ў Мінску, ён яшчэ малады, але ўжо кандыдат эканамічных навук. Выдаў некалькі кніг па праблемах развіцця сусветнай эканомікі і міжнародных эканамічных зносінаў, знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь і інтэграцыі яе ў сістэму трансгранічных сувязей. Вельмі хацеў бы наладзіць сувязі з такімі ж маладымі эканамістамі ў Польшчы, з землякамі бацькі, які родам з вёскі Гарнова, што на Беласточчыне, — працягвала размову спадарыня Людміла Літвінюк.

*— Іван Андрэевіч, дык вы родам з Беласточчыны? — пытаюся ўжо ў гаспадара хаты.*

— Так. Нарадзіўся я ў 1939 годзе ў Польшчы ў вёсцы Гарнова Бельск-Падляшскага раёна, а пасля вайны, мусіць, гэта быў Сямытыцкі раён. З Гарнова нашу сям'ю эвакуявалі ажно ў Херсонскую вобласць на Украіну. Агітацыя ехаць на Усход была вельмі актыўная. Мне расказвала маці, што ў нашай хаце нават быў сам Панцеляймон Панамарэнка, які агітаваў выязджаць на Усход, практычна выганяў нас і іншыя беларускія сем'і на Усход.

*— Магчыма... Панцеляймон Панамарэнка быў рускім чалавекам, даваў згоду на арышт і асуджэнне дзяржаўных і партыйных работнікаў БССР...*

— А ў 1938–1947 гадах ён быў сакратаром ЦК КП(б)Б, адначасова з верасня 1939 года з'яўляўся чальцом ваеннага Савета Заходняй ваеннай акругі. Так што мая маці казала праўду. Гэта быў 1944 ці 1945 год, адразу пасля вайны.

*— Кім працавалі ў Гарнова вашы бацькі?*

— Яны былі звычайныя сяляне, працавалі на зямлі. Мелі 12 гектараў зямлі ў Гарнова, гектар лесу. Многія сваякі бацькі нікуды не паехалі, засталіся на радзіме. Сям'я наша была невялікая: я і сястра. Сястра ўжо памерла, а мне цяпер 72 гады.

*— А ваша сям'я ўсё ж пакінула родную вёску Гарнова?*

— Прымусілі пакінуць. Бацькі пагрузілі ў вагоны плугі, бароны, сячкарню, 5 кароў і іншае хатняе багацце, і мы паехалі, як пісалася ў эвакуацыйным лісце, у іншы раён БССР, а завезлі нас ажно на Украіну. А тады на Украіне была галадоўка, таму выгадна было, каб да іх прыехалі сяляне з багатай Заходняй Беларусі з каровамі, конямі, збожжам. Прыехалі туды, а там галадэча. Некаторыя ўсё кінулі і паехалі назад у Польшчу. А іншыя беларусы паспрабавалі застацца.

*— І ці доўга вы былі ў Херсонскай вобласці?*

— Нядоўга. Сабралася нас некалькі сем'яў, і вырашылі мы ехаць назад сваім ходам, запрэглі каня, пагрузілі ўсё і пачалі вяртацца. Але па дарозе ў нас утапіўся конь, тады запрэглі дзве каровы і ехалі дамоў такім чынам. Прыехалі мы на Слонімшчыну ў вёску Багданавічы. Пасялілі нас у хату, дзе жыў паляк, які выехаў у Польшчу. Дом быў вялікі, і ўладкавалі туды тры сям'і з Беласточчыны: нашу сям'ю, Здунюкоў і Персцянюкоў. Палякі паехалі, але бульбу, відаць, выкапаць не паспелі. Мы выкапалі бульбу, засыпалі капцы. Аднойчы прачынаемся, а іх нехта падпаліў. Магчыма, хтосьці з палякаў, якія засталіся на Слонімшчыне. Тым не менш, мы пачалі пацiху абжывацца, я пайшоў у школу. А потым нам далі хату ў вёсцы Мізгіры, дзе жыло ўжо шмат беларусаў з Беласточчыны. Нам нават зайздросцілі многія, што ў ладны дом нас засялілі, бо ў многіх хатах не было падлогі, невялікія хаткі былі, халадняватыя. А нам патрапіўся вялікі і дагледжаны дом. Але ў калгас мае бацькі так і не ўступілі, не пайшлі, не захацелі. У нас тады забралі зямлю, а далі толькі 20 сотак.

*— А ці былі ў вашых маці і бацькі браты і сёстры?*

— У бацькі была сястра, яна жыла ў заходняй частцы Польшчы. Яна нават хацела бацьку выклікаць у Польшчу, каб ён вярнуўся ў Гарнова, але не паспела, бо памерла. А ў мамы было шмат братоў і сясцёр.

*— І як ваш лёс склаўся на Слонімшчыне?*

— Бацька меў каня і працаваў на розных работах, але ў калгас не пайшоў. У 1952 годзе супраць яго завялі справу. Бацька пачаў хавацца. Яго некалькі разоў выклікалі ў НКУС на допыты. А калі ў 1953 годзе Сталін памёр, прыйшла паперка, што справа спынена.

*— І бацька ваш так ніколі і не ўступіў у калгас?*

— Не. Потым мы пераехалі ў Слонім. Бацька і маці ніколі пенсіі не атрымлівалі. А калі стаў СССР кіраваць Гарбачоў, то маці атрымала 100 рублёў. Бацька памёр рана — у 1973 годзе, а маці пражыла 83 гады. Прозвішча мамы было Макарчук Надзея, яна таксама была родам з Гарнова.

*— Ці памятаеце вы, Іван Андрэевіч, што-небудзь з вёскі Гарнова?*

— Памятаю, дзе стаяла наша хата. Калі пакінулі яе, то маці сказала вяскоўцу Савіцкаму, каб ён там жыў. Бацька мой Андрэй ездзіў у 1962 годзе ў Гарнова, то казаў, што хаты, хлява, розных пабудоў ужо няма. Іх Савіцкі перанёс на хутар. Бацька з горыччу казаў пра гэта.

*— А вы наведвалі Беласточчыну?*

— Быў адзін раз там у 1973 годзе. І то з цяжкасцю далася мне гэта паездка пры камуністах. Але паехаць на радзіму мне пашанцавала.

### Даведка

20 верасня 1944 года Беларусь страціла Беластоцкую вобласць. Сталінскі ўрад заключыў пагадненне з Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення пра маючую быць перадачу Беласточчыны Польшчы і абмен насельніцтвам на перададзеных землях. З Беласточчыны высяляліся беларусы, з Беларусі туды ехалі беларускія палякі. За наступныя гады ў савецкую Беларусь выехалі з Беласточчыны 36 тысяч чалавек.

У 1945 годзе адбылася дамова сталінскага ўрада з польскім часовым урадам аб перадачы беларускай тэрыторыі палякам і змене дзяржаўнай мяжы. Было перададзена Польскай рэспубліцы 17 раёнаў Беластоцкай вобласці і 3 раёны Брэсцкай вобласці. Беларусь стала адзінай краінай сярод пераможцаў у вайне, якая страціла значную частку сваёй гістарычнай тэрыторыі.

*— Ці падтрымліваеце сувязі з кім-небудзь з Беласточчыны?*

— Мы хочам знайсці землякоў, якія да нас прыязджалі. Мы шмат гадоў таму сустракаліся, гутарылі з Аляксандрам Літвінюком з Гарнова, з якім у 1974 годзе спаткаліся ў Мінску. А таксама хочам знайсці Макарчука Юзіка з Сельдцаў — сваяка мамы. Ён жыў на вуліцы Гальчынскага. Гасцяваў у нас і айцец Антоній Чапко. Але сувязі з гэтымі людзьмі даўно спыніліся. Хочацца даведацца пра лёс маіх землякоў.

*— Іван Андрэевіч, а як ваш лёс склаўся ў Беларусі?*

— Я скончыў фізмат Брэсцкага педінстытута. Працаваў настаўнікам на Слонімшчыне, быў дырэктарам школы ў горадзе Клічаве на Магілёўшчыне. Калі пайшоў на пенсію, з жонкай прыехалі на Слонімшчыну ў хату яе бацькоў, дзе цяпер і жывем. Дарэчы, я ніколі не быў піянерам, камсамольцам і членам кампартыі. І добра, што нікуды не паспеў уступіць.

▸ АБ'ЯВА

# ПРЫМАЮЦЦА ЗАЯЎКІ НА «БАСОВІШЧА–2013»

**Да канца траўня прымаюцца заяўкі на конкурс у сёлетняй эдыцыі ФЕСТЫВАЛЮ МУЗЫКІ МАЛАДОЙ БЕЛАРУСІ «БАСОВІШЧА–2013».**

BASOWISZCZA festyval muzyki maladoj Bielarusi

Ці калі-небудзь інспіраваў вас музычны шлях «:B:N:», «AKUTE» ці гурту «RIMA»? Гэта толькі прыклады, але кожны з іх быў лаўрэатам конкурсу на «Басовішчы». У гэтым годзе таксама можна паспрабаваць свае сілы. Дастаткова даслаць заяўку, якую знойдзеце на сайце фестывалю або на FB, падрыхтаваць 2 файлы з музыкай і 1 відэа. Усё даслаць нам і пачакаць рашэння журы. Хто стане пераможцам, хто атрымае сёлетнія призы і хто выступіць на сёлетнім фестывалі — агучым у час BEFORE, на Выспе Венглёвай у Беластоку 7 чэрвеня, дзе таксама за ўдзел у фестывалі пазмагаюцца ахвотныя з польскага боку мяжы.

### Набор заявак

Дадаткі, разам з запоўненым формулярам, просім укінуць на сайт https://www.wetransfer.com/ і даслаць спасылку на адрас электроннай пошты konkurs@basowiszcza.org

### Важнае

Рэкамендуецца, каб кожны гурт паказаў не менш за дзве беларускія песні. Рэпертуар толькі на рускай мове не будзе ацэньвацца. Дапушчальныя мовы — польская і англійская.

Пераможцы арганізатар забяспечвае 40-хвілін выступу падчас фестывалю Музыкі маладой Беларусі «Басовішча–2013» і грашовы прыз. Умовай атрымання прыза з'яўляецца выступ на сцэне FMMB «Басовішча–2013», у якім 50% рэпертуару складзена будзе на беларускай мове.

Журы складаецца з двух прадстаўнікоў арганізатара, а таксама трох прадстаўнікоў з боку беларускіх партнёраў. Пры выбары пераможцы журы будзе звяртаць увагу, між іншым, на арыгінальнасць формы, тэксты і артыстычную экспрэсію.

budzma.org

СПАДЧЫНА

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО МІЛІЦЫЯНЕРА

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Георгій Фядотавіч Дзям'янаў, міліцыянер-франтавік, быў адным з тых, хто ўдзельнічаў у барацьбе супраць «лясных братоў» на тэрыторыі Бабруйшчыны ў паваенны час быў. Мне ўдалося знайсці цікавы архіўны дакумент — успаміны гэтага чалавека, што ілюструюць тыя часы.**

## У гады Вялікай Айчыннай

Нарадзіўся Георгій Дзям'янаў у 1924 годзе ў вёсцы Бярэзнякі, Варонежскай вобласці ў сям'і сялян. Пасля заканчэння школы ў 1939 годзе працаваў ён на суднарамонтным заводзе ў Марыўпалі. Калі амаль адразу пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз завод эвакуявалі на Усход, Дзям'янаў вярнуўся ў родную вёску і працаваў у калгасе. У адзін з дзён 1942 года Георгій пайшоў да ваенкома і дабіўся залічэння ў Чырвоную Армію. Увечары таго ж дня навабранцаў пагрузілі ў эшалоны і накіравалі на фронт.

На нейкай станцыі Арлоўскай вобласці цягнік спыніўся, і камандзір эшалона загадаў разгружацца. «Я быў залічаны ў 1-ю гвардзейскую стралковую дывізію Паўднёва-Заходняга фронту, якой камандаваў генерал-лейтэнант Іван Русіянаў. Гэта вайсковая частка паўстала на базе 100-й дывізіі, якая з 26 па 30 чэрвеня 1941 года змагалася з нямецкімі войскамі на подступах да Мінску. Большасць байцоў і камандзіраў 1-й гвардзейскай былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі», — пісаў ва ўспамінах Дзям'янаў.

Ужо на наступны дзень маладыя салдаты прынялі прысягу і былі размеркаваныя па ротах. Георгій трапіў у 2-і ўзвод 5-й роты 7-га стралковага палка. «На ўзвод тады прыходзілася два аўтаматчыкі, адзін кулямётчык, а астатнія атрымлівалі вінтоўкі Мосіна і СВТ. У чэрвені 1942 года полк, у якім я служыў, быў перакінуты пад Курск», — успамінаў Дзям'янаў. Там пачалася Варонежска-Варашылаўградская аперацыя.

Георгій Фядотавіч узгадваў: «Баі былі жорсткімі. На гэтым участку фронту немцы супраць нас увялі ў бой значную колькасць бронетэхнікі. Населеныя пункты пераходзілі з рук у рукі. З танкамі змагаліся, як і ў 1941-м, з дапамогай «кактэйляў Молатава».

11 ліпеня 1942 года Дзем'янаў удзельнічаў у баях за сяло Белы Калодзеж, дзе полк, у якім ён ваяваў, атрымаў загад выбіць ворага з населенага пункта. У той дзень Георгій Фядотавіч быў цяжка паранены, куля выбіла вока. Побач з сяржантам ляжаў і паранены ў нагу палітрук роты. Не доўга думаючы, Дзям'янаў закінуў лейтэнанта на сябе і выцягнуў з поля бою. Пазней абодвух накіравалі ў вайсковы шпіталь №1648 у Пензе, дзе хірургі зрабілі Дзям'янаву складаную аперацыю. Пасля выпіскі варонежскага хлопца прызналі не годным да страявой і камісавалі.

## На службе ў міліцыі

Пасля выздараўлення Дзям'янаў працаваў на шахце №6 пасёлка Вузлавая, Маскоўскай вобласці. Аднак ужо праз паўгода Георгій нечакана атрымаў позву з ваенкамата і хутка адправіўся ў распараджэнне НКУС на пасаду ўчастковага-ўпаўнаважанага. «Значная колькасць супрацоўнікаў міліцыі знаходзілася на фронце, і асабісты склад органаў міліцыі папаўнялі за кошт былых параненых франтавікоў», — адзначаў у сваіх успамінах Георгій Дзям'янаў. Праз 5 месяцаў яго накіравалі ў Маскву. У сталіцу тады прыехала некалькі соцень міліцыянераў з перыферыі. З імі правялі інструктаж і агучылі загад, у якім адзначалася, што ўсе яны накіроўваюцца ў вызваленыя з-пад нямецкай акупацыі раёны БССР. Так Дзям'янаў трапіў у Магілёўскую вобласць.

Сітуацыя там была вельмі складанай. Фронт быў зусім блізка. Міліцыянерам прыходзілася адшукваць дэзерціраў. Так, у вёсцы Пачэпы Георгій Фядотавіч затрымаў трох узброеных уцекачоў з Чырвонай Арміі. А пасля правядзення аперацыі «Баграціён» міліцыю выкарыстоўвалі для пошуку нямецкіх салдат і афіцэраў, якія хаваліся ў лясах.


Георгій Дзям'янаў, 1943 год


Георгій Дзям'янаў з жонкай і сынам


Георгій Дзям'янаў, 1970 год

## Барацьба з «ляснымі братамі»

30 чэрвеня 1944 года Дзям'янава адправілі ў Клічаўскі раён. «Разам са мной прыехалі начальнік раённага аддзела НКУС старшы лейтэнант Фількін, оперупаўнаважаны лейтэнант Ларыёнаў і яшчэ 8 участковых-упаўнаважаных. Хутка склад клічаўскай міліцыі папоўніўся за кошт былых партызанаў. Мяне накіравалі на ўчастак Бацэвічы — Усохі — Заполле. Гэта быў адзін з найбольш цяжкіх раёнаў», — пісаў Георгій Фядотавіч.

Падчас акупацыі шмат жыхароў Клічаўшчыны пайшлі служыць у паліцыю. Некаторыя з іх удзельнічалі ў карных аперацыях. Было шмат і тых, хто працаваў у акупацыйнай адміністрацыі. Сітуацыя ўскладнялася і тым, што падчас акупацыі ў Бабруйску знаходзілася вялікая колькасць рускіх батальёнаў, вайсковых частак, створаных нацыстамі дзеля барацьбы супраць савецкіх войск. Пасля вызвалення гэтых тэрыторый значная колькасць уласаўцаў падалася ў лясы. Ад Саветаў таксама хаваліся і звычайныя сяляне, якія былі супраць калектывізацыі.

Амаль адразу пасля вызвалення гэтых тэрыторый ад немцаў савецкія ўлады пачалі вяртацца да калгаснай сістэмы. Так, Клічаўскі райвыканкам прыняў рашэнне сілай канфіскоўваць быдла, сельскагаспадарчыя прылады працы і насенне ў тых, хто адмаўляўся ўсё гэта перадаць у калгас. Для выканання гэтага распараджэння выкарыстоўваліся ўчастковыя міліцыянеры. Нарэшце, варта падкрэсліць, што ў клічаўскіх лясах у гады вайны была савецкая партызанская зона. Там захаваліся зямлянкі, бліндажы і іншая неабходная для ляснога жыцця інфраструктура. Такім чынам, на Клічаўшчыне была сацыяльная база і спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення антысавецкіх фарміраванняў.

У 1944 годзе вакол былога супрацоўніка нацысцкай адміністрацыі Аляксандра Аношкі сабралася некалькі дзясяткаў былых паліцаяў, уласаўцаў і іншых незадаволеных савецкай уладай. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, падчас вайны гэты чалавек адказваў за адпраўку беларускай моладзі ў Германію. Акрамя гэтага, Аношка здаў гестапа некалькі сямей партызанаў. Намеснікам Аношкі быў былы паліцэйскі Іван Шэх (па мянушцы Жук). Іх атрад дзейнічаў у Клічаўскім, Кіраўскім, Бярэзінскім, Асіповіцкім, Быхаўскім раёнах.

Першая сустрэча ўпаўнаважанага Дзям'янава з клічаўскімі «ляснымі братамі» адбылася ля вёскі Орлін. Выйшаўшы з будынку сельсавету, міліцыянер накіраваўся да хаты, дзе жыла сям'я былога паліцэйскага. Аднак нечакана з лесу паказаліся ўзброеныя людзі, і адзін з іх пачаў страляць з аўтамата. Дзям'янаў быў лёгка паранены ў нагу. Былы франтавік тут жа схапіў свой ППШ і агнём у адказ не дазволіў нападаўшым наблізіцца да сябе.

Наогул, госці з лесу распачалі сапраўднае паляванне на супрацоўнікаў савецкага дзяржапарату, былых партызан і іх сямейнікаў. Жонка Дзям'янава Ганна Кірылаўна разам з толькі што народжанай дачкой вымушана была амаль кожны дзень змяняць месца начлегу, таму што заставацца на адным месцы было рызыкоўна. Аднойчы «лясныя браты» паспрабавалі нават падпаліць вёску, калі даведаліся, што ў ёй знаходзяцца міліцыянеры, што прыехалі з Бабруйску.

«Для барацьбы з «ляснымі братамі» была створана адмысловая аператыўная група на чале з кіраўніком аддзелу барацьбы з бандытызмам МУС БССР палкоўнікам Аляксеем Гранскім. У аперацыі, акрамя супрацоўнікаў МДБ і міліцыі, прымалі ўдзел і падраздзяленні савецкай арміі. Быў распрацаваны план па ўкараненні ў банду агента, які павінен быў прывесці «лясных братоў» у засаду міліцыі. У рукі МУС трапіў былы настаўнік па прозвішчы Тоўсцік, які падчас нямецкай акупацыі быў старастам адной з вёсак. Аказалася, што гэты чалавек з'яўляецца сваяком няўлоўнага Аляксандра Аношкі», — успамінаў Дзям'янаў. Тоўсціка прымусілі пайсці на супрацу з МУС і хутка адправілі ў атрад. Былы настаўнік праз спецыяльныя схованкі пакідаў дадзеныя для міліцыі. «Я асабіста некалькі разоў хадзіў на сустрэчу з Тоўсцікам», — пісаў Дзям'янаў.

Нарэшце, у маі 1948 года міліцыі ўдалося арганізаваць пастку для Аношкі, у якую той і трапіў. Аношку і некалькі яго сяброў удалося ўзяць жывымі. Іншых знішчылі ў зямлянках. Прысуд для Аношкі і яго паплечнікаў быў аднолькавым: 25 гадоў зняволення.

Зараз можна па-рознаму ацэньваць тыя падзеі. Па сутнасці, Другая Сусветная вайна ў 1944 годзе на Бабруйшчыне працягвалася. Але мела яна ўжо характар грамадзянскай вайны.

За праведзеную супраць клічаўскіх «лясных братоў» аперацыю Георгій Фядотавіч Дзям'янаў быў узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага савета БССР. У верасні 1949 года Клічаўскі ваенком палкоўнік Магераў адправіў камандаванню Беларускай вайсковай акругі прадстаўленне на лейтэнанта міліцыі Дзям'янава з хадайніцтвам аб узнагароджанні Ордэнам Айчыннай вайны другой ступені. Аднак пазней міліцыянеру ўручылі Ордэн Чырвонай Зоркі. У 1960 годзе Георгій Фядотавіч па стану здароўя быў адпраўлены на пенсію. Цяжкае раненне ў вока і ваенныя выпрабаванні ўсё часцей нагадвалі пра сябе, і ў 1978 годзе Дзям'янава не стала. Яму было ўсяго 55 гадоў.


Савецкія вайскоўцы — удзельнікі аперацыі па ліквідацыі атрада Аношкі

ЮБІЛЕЙ

# ЧАСОПІСУ «БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС» — 80 ГАДОЎ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Сёлета ў траўні спаўняецца 80 гадоў з дня выхаду першага нумара штомесячнага культурна-грамадскага і літаратурнага часопіса дэмакратычнага накірунку ў Заходняй Беларусі «Беларускі летапіс».**


БЕЛАРУСКІ
ЛЕТАПІС
Культурна-Грамадзкі і Літаратурны Месячнік
№ 5 КРАСАВІК 1937 г. ГОД II
Міхал Забэйда-Суміцкі.


Рэдактар-выдавец часопіса «Беларускі летапісец» Фелікс Стацкевіч. Мастак А. Крывенка


ЛЕТАПІС
ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ
Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік
Сьвіслацкі гуртон ТБШ, зачешаны Ваўкавыскім Старастай „за бяздзейнасьць". (Гл. хроніку).
СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год; 1 зл. 80 гр. на паўгода; асобны нумар 35 гр.
АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Каралеўская вуліца 3-8
№ 1-3 Студзень — Люты — Сакавік 1936 г. Год II

Выйшла ўсяго 19 нумароў (асобныя нумары былі здвоеныя). У сваім хатнім архіве я маю толькі 15.

«Беларускі летапіс» пачаў выдавацца з траўня 1933 года як орган Таварыства беларускай школы (ТБШ). Выдаваўся да верасня 1939 года. Праўда, у 1934–1935 гадах часопіс не выходзіў у сувязі з рэпрэсіямі польскіх улад. Спачатку ён называўся «Летапіс Таварыства беларускай школы», а са снежня 1936 года выходзіў пад назвай «Беларускі летапіс». Часопіс друкаваўся ў Вільні ў друкарнях Я. Баеўскага на Татарскай вуліцы, 13, М. Багаткевіча і Б. Тручко на вуліцы Міцкевіча, 22, а таксама ў друкарні Я. Левіна на Нямецкай вуліцы, 22. У склад рэдакцыі, акрамя рэдактара, уваходзілі таксама Сяргей Паўловіч, Максім Танк, Рыгор Шырма і Вітаўт Тумаш.

Рэдактарам-выдаўцом часопіса быў Фелікс Стацкевіч (1879–1967). Цікавая асоба, мала даследаваная, амаль забытая. Ён нарадзіўся ў Шчучыне, скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. Быў знаёмы з многія беларускімі дзеячамі, у тым ліку з Цёткай, Алесем Бурбісам, Максіма Танкам і іншымі. Уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, быў дырэктарам Радашковіцкай беларускай гімназіі. У 1949 годзе Фелікса Стацкевіча рэпрэсавалі.

Пасля вяртання на радзіму жыў у Вільні, склаў «Эсперанта-беларускі слоўнік», перакладаў з мовы эсперанта і на мову эсперанта, напісаў успаміны. Многае, напісанае ім (рукапісы захоўваюцца ў архівах), даўно просіцца пад адну вокладку, але хто гэта сёння ўсё збярэ, падрыхтуе і выдасць…

«Беларускі летапіс» у кожным нумары друкаваў вершы паэтаў Заходняй Беларусі. Акрамя Максіма Танка, часта на яго старонках выступалі Міхась Машара, Анатоль Іверс, Ніна Тарас, Міхась Васілёк, Якуб Колас, Сяргей Хмара, Алесь Дубровіч, Міхась Явар, Ганна Новік і іншыя. Многія з гэтых аўтараў пісалі рэцэнзіі пра кнігі паэтаў Заходняй Беларусі. Вядома ж, не мінаў часопіс і літаратараў з Усходняй Беларусі. Пра ўсе цікавыя падзеі адтуль часопіс паведамляў у «Нашай хроніцы». У гэтай рубрыцы, якая цікава чытаецца і сёння, часопіс пісаў і пра ўсе беларускія падзеі Вільні і далёка за яе межамі.

У №2 за 1938 год «Беларускі летапіс» паведамляў пра тое, што з Друі высяляюць айцоў-марыянаў — Я. Дашуту, К. Смульку, В. Хамёнка і Ю. Кашыру. А пасля высялення айцоў-марыянаў, 8 ліпеня 1938 года з Друі выселілі яшчэ пяцёра марыянскіх клерыкаў: А. Падзяву, Ч. Сіповіча, К. Сарулю, Б. Сарулю і К. Аніськовіча.

У гэтым самым нумары змешчана інфармацыя з Балгарыі. У ёй паведамляецца, што ў Сафіі — сталіцы Балгарыі, даўно існуе група беларускай эміграцыі (больш за 10 чалавек). Гэта старыя паваенныя беларускія эмігранты, якія паходзілі з Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Яны тады, як паведамляў часопіс, знаходзіліся ў цеснай лучнасці з мясцовай арганізацыяй украінскіх студэнтаў.

Часопіс «Беларускі летапіс» (№ 10–11, 1937 г.) пісаў аб тым, што 9 верасня адбыўся акружны суд над паэтам Максімам Танкам і выдаўцом В. Труцько за зборнік паэзіі «На этапах». Гэты зборнік польская ўлада канфіскавала 25 ліпеня 1936 года за некаторыя вершы, у якіх адчуваецца «адарванне ад Польшчы».

У № 1–3 «Летапісу таварыства беларускай школы» за 1936 год паведамлялася, што 21 кастрычніка 1935 года была забаронена Віленскім гарадскім старастам лекцыя «Аб змаганні за беларускую школу», якую планаваў прачытаць старшыня гуртка ТБШ В. Склубоўскі.

Чытаеш часопіс «Беларускі летапіс» і адчуваеш, што нібыта ён сёння выйшаў у Мінску. Бо, як цяпер, так і ў тыя 1930-я гады ў Вільні, шмат друкавалася інфармацый аб забароне беларускіх кніг, газет, часопісаў, літаратурных вечароў, сустрэч, пісалася пра суды, дзе судзілі беларусаў за беларушчыну. Восемдзясят гадоў прайшло, а нічога не памянялася ў жыцці беларусаў. Проста жах!..

Як і цяпер, так і тады, «Беларускі летапіс» шмат змяшчаў на сваіх старонках розных дэкларацый ТБШ, зваротаў, заклікаў у справе дамагання роднай школы. Друкаваў тады часопіс і артыкулы-палемікі з польскім і беларускім клерыкальным друкам, інфармаваў чытачоў пра дзейнасць Беларускага студэнцкага саюза.

Вельмі часта на старонкі «Беларускага летапісу» траплялі матэрыялы, якія расказвалі пра музычную дзейнасць на карысць беларускай песні кампазітараў К. Галкоўскага, Р. Шырмы, А. Грачанінава, А. Кошыца, М. Гайваронскага, спевака Міхася Забэйды-Суміцкага.

Друкаваў часопіс на сваіх старонках і творы Івана Франко, Оўна Мацюта, Ёзаса Кекштаса ў перакладзе Максіма Танка. Вялікую серыю нарысаў Уладзіміра Пігулеўскага па гісторыі цывілізацыі і культуры, успаміны «З мінуўшчыны беларускага руху» пад псеўданімам Аганёк самога рэдактара часопіса Фелікса Стацкевіча і многія-многія іншыя.

Часопіс «Беларускі летапіс» у той час актыўна асвятляў культурна-грамадскі і літаратурны рух у Заходняй Беларусі. Шчыра кажучы, нам сёння так не хапае падобных выданняў, якія адкрывалі б Беларусь у глыбінцы.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 563

Падпісана да друку 17.05.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча